# ЗВЯЗДА

30 студзеня 1998 г. пятніца, № 22 (23373)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў


## 4 і 5 лютага ў Слуцку і Слуцкім раёне працуе «выязная прыёмная» «Звязды», Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, міністэрстваў сацыяльнай абароны насельніцтва, жыллёва-камунальнай гаспадаркі і аховы здароўя

«Выязная прыёмная» будзе праводзіцца па наступных адрасах: **4 лютага ў Слуцку — у памяшканні гарадской бібліятэкі і Палаца культуры цукрова-рафінаднага камбіната (з 11 да 15 гадзін). Таксама 4 лютага (але ўжо з 16 да 17.30) — у памяшканнях Грэскага сельскага Савета і ў пакоі прафкама калгаса імя Арджанікідзе ў вёсцы Вясея.** У гэтых жа населеных пунктах — у Грэску і Вясеі — пасля 18 гадзін адбудуцца шырокія сустрэчы з насельніцтвам. Супрацоўнікі «Звязды» і іншыя ўдзельнікі пасяджэння «выязной прыёмнай» гатовыя да прамога дыялога з усімі. 5 лютага мы будзем працаваць у калгасах «Прамень камунізму» (прыём адбудзецца ў памяшканні мясцовага сельскага Савета) і ў калгасе «XVI партз'езд» (у памяшканні Дома механізатара) — з 8 да 10 гадзін раніцы.

Да сустрэчы, да шчырай, зацікаўленай, спадзяёмся, — карыснай размовы!

# РОЗГАЛАС

## ПАВЫШЭННЕ ТАРЫФАЎ НА ПРАЕЗД — ВЫРАШАНАЯ СПРАВА

**З 1 лютага гэтага года ў Брэсцкай, Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай абласцях і г. Мінску адбудзецца павышэнне тарыфаў на праезд у гарадскім пасажырскім транспарце. Кошт адной паездкі будзе абыходзіцца пасажырам з гэтага часу ў 2600 рублёў.**

Па словах спецыялістаў, гэта сума ні ў якім разе не кампенсуе транспартнікам рэальных затрат на транспартныя перавозкі.

Так, напрыклад, у лістападзе мінулага года ў сталіцы адна паездка ў трамваі абыходзілася гораду ў 4000, у метро — 4400, у тралейбусе — у 8600 і ў аўтобусе — у 9500 рублёў. Па абласцях гэта лічба крыху меншая і вагаецца прыкладна ў межах 4 тысяч рублёў.

Зразумела, што падаражэюць у лютым і месячныя праязныя білеты. Праязны білет на адзін від транспарту абыдзецца мінчанам у 110 тыс. рублёў, на 2 — у 156, на 3 — у 182 і на 4 — у 210 тыс. рублёў.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*УВАГА: «ПРАМАЯ ЛІНІЯ»!*

## Вам адкажа міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Барыс Васільевіч Батура.

Усіх нас, канешне, хвалююць шматлікія штодзённыя жыллёвыя пытанні. Ці будзе цёпла ў кватэрах, якой вадой мы будзем карыстацца, колькі прыйдзецца плаціць у далейшым за камунальныя паслугі — колькасць праблем амаль астранамічная. Магчыма, больш хуткаму і дзейснаму іх вырашэнню паспрыяе ваша асабістая размова з міністрам жыллёва-камунальнай гаспадаркі Барысам Батурам. **«Прамую лінію» з яго ўдзелам «Звязда» праводзіць 11 лютага з 14 да 15 гадзін.** Задаць свае пытанні міністру ў гэты час можна па тэлефонах: (8-017) 232-38-21; 232-38-92.

Папярэдне чакаем вашых званкоў па тэлефоне (8-017) 268-27-51 і пісьмовых допісаў на адрас рэдакцыі: 220013, г. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10А, рэдакцыя газеты «Звязда».

## БЕЛАРУСКІ БАЛЕТ ЗНОЎ ЗАПРОШАНЫ Ў КІТАЙ

**Адправіўся ў гастрольную паездку Нацыянальны тэатр балета Беларусі пад кіраўніцтвам В. Елізар'ева.**

Ізноў Кітай. Гэта ўжо не першая паездка нашай балетнай трупы ў гэту краіну. У жніўні 1997 года балетамі П. Чайкоўскага «Лебядзінае возера» і «Спячая прыгажуня» і пачалося знаёмства кітайскага гледача з беларускім балетным мастацтвам.

А літаральна праз пару месяцаў была яшчэ адна сустрэча. На суд кітайскаму гледачу быў прывезены балет Чайкоўскага «Шчаўкунок». У чарговы свой прыезд беларускія артысты пакажуць ужо знаёмае «Лебядзінае возера» і зусім новы балет «Рамэо і Джульета» С. Пракоф'ева. Кітайскі глядач убачыць выступленні яркіх зорак беларускага балета — заслужаных артыстак Беларусі К. Фадзеевай, Т. Шаметавец, заслужанага артыста рэспублікі В. Захарава, У. Даўгіх.

**Васіль САВІЦКІ.**

*ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...*

## ...АЎТАПАРК СТАЛІЦЫ «ПАМАЛАДЗЕЕ»

**Як вядома, на сённяшні дзень знос аўтобуснага парка ў Мінску складае каля 60 працэнтаў. Таму інфармацыя аб маючым адбыцца папаўненні рухомага саставу не магла прайсці незаўважанай: гаварылася, што з бюджэту выдзелены вялікія сродкі на набыццё ажно 200 новых аўтобусаў.**

У гарадскім прадпрыемстве «Мінскпасажыраўтатранс», куды мы звярнуліся з мэтай удакладніць чуткі, шчыра кажучы, на кантакт пайшлі вельмі неахвотна. Справа ў тым, што грошы — каля 600 млрд. рублёў — сапраўды выдзелены з гарадскога бюджэту, аднак са сродкаў 5-працэнтнага транспартнага збору.

Пэўная частка (каля 100 млрд. рублёў) пайшла метрапалітэну, нейкая сума будзе ўкладзена ў капітальны рамонт і інш., і атрымліваецца, што нават пры мінімальнай заяўцы на 400 млрд. рублёў рэальна транспартнікі змогуць атрымаць каля 260 млрд. Натуральна, за такія грошы дзве сотні новых аўтобусаў не купіш, таму пакуль на першае паўгоддзе стаіць задача набыць толькі 50 новых машын, якія выпускае МАЗ. А на «рэшту» — колькі ўдасца «былых у выкарыстанні» аўтобусаў з Венгрыі, Германіі. Праўда, у планах значацца яшчэ 5 «ЛіАЗаў» і 20 «Амкадораў», але яны таксама «ўваходзяць» у тыя ж 260 млрд. рублёў, якія рэальна змогуць атрымаць транспартнікі. Гэтыя машыны, хаця і новыя, але невялікія, а, па словах спецыялістаў, зараз востра стаіць задача набыцця аўтобусаў з «гармонікам». Вось і круціся як хочаш: або новыя, але малыя, або доўгія, ды старыя...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## НА ПАЧАТАК ГОДА З УСІХ ДЗЕЮЧЫХ У БЕЛАРУСІ БАНКАЎ СТАТУТНЫ ФОНД ЗВЫШ 2 МЛН. ЭКЮ ЗАРЭГІСТРАВАНЫ Ў ДВАНАЦЦАЦІ

**На пачатак гэтага года сукупны статутны фонд беларускіх банкаў (з улікам ліквідуемых і крызісных) склаў 2,93 трлн. рублёў, або 87,36 млн. ЭКЮ.**

Як паведамілі БелаПАН у Нацыянальным банку рэспублікі, сукупны статутны фонд дваццаці сямі дзеючых банкаў склаў на пачатак года 2,88 трлн. рублёў, або 85,975 млн. ЭКЮ. Па стану на 1 студзеня гэтага года, з усіх банкаў статутны фонд, які ў эквіваленце перавышае 2 млн. ЭКЮ, сфарміравалі толькі дванаццаць. Па памеры статутнага фонду лідзіруюць «Беларусбанк» (23,2 млн. ЭКЮ), «Белзнешэканамбанк» (11,8 млн. ЭКЮ), «Беларускі банк развіцця» (7 млн. ЭКЮ), «Белгазпрамбанк» (4,7 млн. ЭКЮ), «МінскКомплексБанк» (4,5 млн. ЭКЮ) і «Пріорбанк» (3,47 млн. ЭКЮ). Апрача памянёных, у лік гэтых дванаццаці банкаў увайшлі «Белпрамбудбанк», «Белаграпрамбанк», «СлаўНафтаБанк», «БелКамБанк», беларускі філіял «Масбізнесбанка» і банк «Поіск». Зарэгістраваны статутны фонд менш чым 1 млн. ЭКЮ на пачатак года мелі чатыры з дзеючых банкаў — «РРБ-банк», «Белбалтыя», «НоваКам» і «Рассвет».

Акрамя дваццаці сямі дзеючых, на пачатак года ў Беларусі налічвалася дзевяць так званых праблемных (ліквідуемых і крызісных) банкаў. З іх у стадыі ліквідацыі знаходзяцца сем банкаў — «Чысцінвестбанк», філіял АБ «INKO», «Дукат», «КрэдКамБанк», «Інтэкс», «Беларускі крэдыт» і «Магнатбанк».

**Ягор ЗВОННІКАЎ, БелаПАН.**

## КАЛЯДНЫЯ ПАДАРУНКІ З БЕЛАРУСІ

**Супрацоўнік Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Рэспублікі Беларусь спадарыня Любоў Балаўнёва ў час праваслаўных Каляд наведала Даўгаўпілс і прывезла тутэйшым беларусам, сябрам таварыства «Уздым», цудоўныя падарункі.**

Гэта тэлевізар «Арыён» з відэамагнітафонам і касетамі з запісамі народных святаў, знакамітых мясцін Беларусі, а таксама 19 новенькіх нацыянальных касцюмаў для ансамбля «Купалінка» і 6 дзіцячых нацыянальных касцюмаў для дзяцей Беларускай нядзельнай школы. Прымаючы падарункі ў Генеральным консульстве Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе, кіраўнікі «Уздыму» выказалі словы ўдзячнасці за тое, што Беларусь аказвае сваім дзецям — беларусам блізкага замежжа і значную матэрыяльную дапамогу.

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**

*Латвія.*

*КРЫМІНАЛ*

## АБ'ЕКТАМ «ТЭЛЕФОННАГА ТЭРАРЫЗМУ» СТАЎ БУДЫНАК РАЁННАГА ЎПРАЎЛЕННЯ ЎНУТРАНЫХ СПРАЎ

**Новым аб'ектам папоўніўся спіс устаноў Мінска, якія ў розны час аказваліся ў цэнтры ўвагі так званых «тэлефонных тэрарыстаў».**

Днямі, знаходзячыся ў нецвярозым стане, жыхар беларускай сталіцы, шафёр грузавога аўтамабільнага парка, пазваніў з тэлефона-аўтамата ў Галоўнае ўпраўленне ўнутраных спраў Мінскага гарвыканкама па тэлефоне «02» і паведаміў, што ў будынку Цэнтральнага РУУС закладзена выбуховае ўстройства. Крыху пазней ён быў затрыманы ўчастковым інспектарам міліцыі непадалёк ад «замініраванага» будынка.

Па дадзеным факце ўзбуджана крымінальная справа.

**Алег САКАЛОЎ.**

## ІНВАЛІД ПА ЗРОКУ ЗАРЭЗАЎ УЛАСНЫХ БАЦЬКОЎ

**Як стала вядома БелаПАН, трагедыя разыгралася днямі ў адной з кватэр дома па вуліцы Малініна ў Мінску. У кватэры былі знойдзены трупы гаспадароў — мужа і жонкі П., 1937 і 1942 гадоў нараджэння, з мноствам нажавых раненняў у грудзі.**

Дзяжурным нарадам Ленінскага раённага ўпраўлення ўнутраных спраў сталіцы ўстаноўлена, што злачынства было ўчынена сынам, 1971 года нараджэння, інвалідам 3-й групы па зроку, пасля сумеснага распіцця спіртных напояў і спрэчак. Злачынца затрыманы.

**Алег САКАЛОЎ, БелаПАН.**

## НА БАБРУЙСКІМ ГІДРОЛІЗНЫМ ЗАВОДЗЕ АРЫШТАВАНЫ БЫЛЫ СУПРАЦОЎНІК МЯСЦОВАЙ МЫТНІ

**Чарговы арышт адбыўся па справе аб махінацыях на Бабруйскім гідролізным заводзе.**

Як ужо паведамлялася, арыштаваны амаль усе кіраўнікі завода на чале з дырэктарам. Цяпер следствам устаноўлена, што дачыненне да злачыннай дзейнасці мелі і прадстаўнікі мясцовай мытні. Паводле звестак БелаПАН, некаторыя мытнікі за гэта ўжо пазбавіліся сваёй працы, а адзін з іх — былы старшы інспектар Бабруйскага мытнага паста — узяты пад варту. Паводле версіі следства, у выніку мытнага афармлення партыі спірту па падложных дакументах ён нанёс дзяржаве ўрон у памеры 16 мільярдаў рублёў.

**Аляксандр АЛЕКСАНДРОВІЧ, БелаПАН.**

## ТРОЕ ЖЫХАРОЎ УКРАІНЫ НА ПРАЦЯГУ СУТАК УТРЫМЛІВАЛІ Ў ЯКАСЦІ ЗАЛОЖНІКА РАБОЧАГА ВЫТВОРЧА-КАМЕРЦЫЙНАЙ ФІРМЫ

**Паводле звестак БелаПАН, днямі супрацоўнікамі ўпраўлення па гораду Мінску Камітэта па арганізаванай злачыннасці і супрацоўнікамі крымінальнага вышуку Савецкага РУУС былі затрыманы трое жыхароў Украіны.**

На працягу сутак яны ўтрымлівалі ў якасці заложніка рабочага адной з мінскіх вытворча-камерцыйных фірмаў. За вызваленне злачынцы патрабавалі ў яго 10 тысяч долараў і кватэру.

Вядзецца следства.

**Алег САКАЛОЎ, БелаПАН.**

## У БЕЛАРУСІ ВЫЗВАЛЕНЫ ЗАХОПЛЕНЫ Ў ЗАЛОЖНІКІ ГРАМАДЗЯНІН ЮГАСЛАВІІ

Супрацоўнікамі Камітэта па арганізаванай злачыннасці і карупцыі Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі ў аўторак затрымана міжрэгіянальная злачынная група, якая на працягу 17 сутак трымала ў якасці заложніка грамадзяніна Югаславіі.

Як паведамілі «Інтэрфаксу» ў МУС рэспублікі, група ў саставе трох жыхароў Сумской вобласці (Украіна) і аднаго жыхара Уфы (Расія) у пачатку студзеня захапіла ў Мінску ў заложнікі дырэктара фірмы «Тула-Камерц», які меў від на жыхарства ў Расіі і ажыццяўляў камерцыйную дзейнасць на тэрыторыі дзяржаў Садружнасці.

У якасці выкупу злачынцы патрабавалі ў грамадзяніна Югаславіі афармленне на свае імёны дакументаў для атрымання 40 тон харчовага спірту.

Па сведчанню супрацоўнікаў праваахоўных органаў, у выніку правядзення аперацыі па вызваленню заложнік не пацярпеў.

Пры вобыску ў здымаемай злачынцамі кватэры быў знойдзены пісталет «вальтэр» з глушыцелем і 23 патроны да яго. Супрацоўнікі міліцыі таксама канфіскавалі аўтамабілі «Нісан-Максіма» і «Ваз-2106», якія належалі членам злачыннага фарміравання.

**Інтэрфакс-Захад.**

Бель снягоў і веліч муроў. Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## ВА ЎЗАЕМААДНОСІНАХ БЕЛАРУСІ І ЮГАСЛАВІІ ЁСЦЬ ВЯЛІКІ ЭКАНАМІЧНЫ ІНТАРЭС І НЯМА ПАЛІТЫЧНЫХ ПРАБЛЕМ

**На другі дзень афіцыйнага візіту прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ў Саюзную Рэспубліку Югаславію працягваліся яго сустрэчы з кіраўніцтвам гэтай краіны. Раніцай 29 студзеня кіраўнік беларускай дзяржавы правёў перагаворы з прэм'ер-міністрам СРЮ Радае Концічам.**

Згодна з пратаколам, усе сустрэчы праходзяць за зачыненымі дзвярамі. Таму некаторыя іх падрабязнасці сталі вядомы толькі ў час інтэрв'ю Аляксандра Лукашэнкі, якое ён даў журналістам пасля завяршэння перагавораў з Радае Концічам. Прэзідэнт адзначыў, што ён задаволены вынікамі сустрэч з кіраўніцтвам Югаславіі, яны далі магчымасць устанавіць добрыя кантакты на асабістым узроўні. Паводле яго слоў, у гутарцы з прэзідэнтам СРЮ Слабаданам Мілошавічам, праведзенай у першы дзень візіту, палітычныя пытанні закраналіся настолькі, наколькі гэтага хадаў югаслаўскі бок.

«Гутарка мела інфармацыйны характар, — сказаў Аляксандр Лукашэнка. — Ва ўзаемаадносінах Беларусі і Югаславіі няма палітычных праблем. Мы ўсяляк падтрымліваем і будзем падтрымліваць гэту краіну. Кіраўніцтва Беларусі з'яўляецца прыхільнікам вяртання Югаславіі ў міжнародныя арганізацыі, і мы будзем аказваць гэтаму ўсялякае садзейнічанне».

Перагаворы Аляксандра Лукашэнкі з Радае Концічам былі прысвечаны ў асноўным эканамічным праблемам, і, мяркуючы па іх выніках, прайшлі паспяхова. Паводле слоў прэзідэнта Беларусі, бакі дагаварыліся павялічыць у гэтым годзе тавараабарот паміж дзвюма краінамі ў 10 разоў. І гэта можа стаць беспрэцэдэнтным выпадкам у сусветнай практыцы эканамічных узаемаадносінаў. Кіраўнік беларускай дзяржавы адзначыў, што ўрады нашай краіны і Югаславіі ўжо ўсё падлічылі, склалі дакладны пералік тавараў і маюць намер устанавіць самы жорсткі кантроль за выкананнем намечаных планаў.

Акрамя таго, сказаў Аляксандр Лукашэнка, у час перагавораў былі дасягнуты дамоўленасці аб устанаўленні бязвізавага рэжыму паміж нашымі краінамі, аб супрацоўніцтве ў галіне аховы здароўя і спорту, а таксама аб стварэнні сумеснай беларуска-югаслаўскай вытворчасці ў гомельскім аб'яднанні «Карал» і зборачнага цэха Мінскага трактарнага завода ў СРЮ.

У гэты ж дзень прэзідэнт Беларусі сустрэўся з кіраўніцтвам Нацыянальнага алімпійскага камітэта Югаславіі і ўсклаў вянкі да помніка Невядомаму салдату ў мемарыяльным комплексе «Авала». Затым Аляксандр Лукашэнка наведаў шэраг прадпрыемстваў у Бялградзе. Вечарам кіраўнік беларускай дзяржавы правёў сустрэчу з прадстаўнікамі гаспадарчых і дзелавых колаў Югаславіі.

Завершыцца афіцыйны візіт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у Саюзную Рэспубліку Югаславію 30 студзеня. У апошні дзень свайго знаходжання на югаслаўскай зямлі ён сустрэнецца з былым прэзідэнтам СРЮ Зоранам Лілічам, які займае цяпер пасаду віцэ-прэм'ера ў саюзным урадзе, а таксама са старшынямі абедзвюх палат югаслаўскага парламента. Затым адбудзецца яшчэ адна гутарка з Прэзідэнтам Саюзнай Рэспублікі Югаславіі Слабаданам Мілошавічам, пасля якой будуць падпісаны падагульняючы дакумент па выніках візіту і шэраг міжурадавых пагадненняў.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

*Бялград.*

*НЕПАРАДАК*

## ПАДПОЛЬНЫЯ «МЯСАКАМБІНАТЫ» ДЗЕЙНІЧАЮЦЬ

### На харчовых рынках сталіцы выяўлены нелегальныя пастаўшчыкі мяса

**Шэрагі дзялкоў «ценявога» бізнесу, дзе традыцыйна пануюць нелегальныя гарэлачныя і цыгарэтныя «каралі», апошнім часам папоўнілі мяснікі.**

Мяса ў нашай краіне ператварылася ў стратэгічны тавар, які прыносіць «ценевікам» велізарныя прыбыткі. Прычым рызыкуюць падпольныя мясныя «каралі» значна менш, чым «наркабароны» ці нелегальныя гандляры зброяй. А галоўнае, попыт на мяса стабільна высокі, і гэта азначае, што «ценявы» бізнес на мясе будзе і надалей квітнець у нашай дзяржаве. Калі, вядома ж, міліцыя не спыніць.

Нядаўна супрацоўнікі ўпраўлення па эканамічнай злачыннасці МУС краіны сумесна з калегамі з ГУУС Мінскага гарвыканкама правялі праверкі сталічных харчовых рынкаў.

Як паведаміў «Звяздзе» начальнік службы ўпраўлення па эканамічнай злачыннасці МУС Беларусі Аляксандр Яцкоўскі, вынікі праверак сведчаць, што вялікая колькасць мяса на мінскія харчовыя рынкі паступае з нелегальных забойных цэхаў. У прыватнасці, большая частка свініны, якой гандлявалі на Камароўскім рынку, была завезена з падпольных мясакамбінатаў, размешчаных у Бараўлянах і ў прыватным сектары па завулку Пятроўшчына ў Мінску. Напрыклад, у адным з такіх падпольных мясакамбінатаў, які месціўся ў звычайным хлеўчуку ў прыватным сектары сталіцы, міліцыяй былі знойдзены 22 свіныя тушы. Сапраўднымі гаспадарамі гэтых «ценявых» мясакамбінатаў, як правіла, з'яўляюцца ўладальнікі зусім легальных фірмаў. Прадстаўнікі гэтых фірмаў, не маючы адпаведнага дазволу, скупляюць у калгасах і саўгасах свіней і буйную рагатую жывёлу і дастаўляюць на падпольныя мясакамбінаты.

Так, напрыклад, на Чэрвеньскім рынку была затрымана гандлярка мясам, якая на працягу мінулага года па фіктыўных дакументах рэалізавала 24 свіныя тушы. Падчас следства выявілася, што з нелегальнымі мясакамбінатамі актыўна супрацоўнічала адно з мінскіх прыватных прадпрыемстваў, якое займалася забеспячэннем калгасаў і саўгасаў ветэрынарнымі прэпаратамі. Аналагічныя выпадкі былі выяўлены на Заходнім і Чыжоўскім рынках.

Спецыялісты мяркуюць, што падпольныя мясакамбінаты дзейнічаюць не толькі ў сталіцы, але і па ўсёй краіне. Мяркуйце самі. Мясакамбінатамі Беларусі летась перапрацавана толькі 38 працэнтаў ад прададзенай калгасамі і саўгасамі колькасці свіней і 57 працэнтаў буйной рагатай жывёлы. Астатняя жывёла, вырашчаная на калгасна-саўгасных фермах, відавочна, знікла на бяскрайнім расійскім рынку і на падпольных мясакамбінатах. У выніку вялікі ўрон нанесены не толькі дзяржаве, якая не атрымала падаткаў. Ад дзейнасці «ценявых» мясных каралёў церпяць страты і легальныя мясакамбінаты краіны, многія з якіх прастойваюць з-за недахвату сыравіны.

Дарэчы, нярэдка акцыянерамі легальных мясакамбінатаў з'яўляюцца калгасы і саўгасы. Тым не менш кіраўнікі такіх гаспадарак, кіруючыся, відавочна, нейкімі сваімі ўласнымі інтарэсамі, аддаюць перавагу супрацоўніцтву з «падпольнымі» мяснікамі.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

## КОЛЬКІ КАШТУЕ ПАРКОЎКА АЎТАМАБІЛЯ?

**Рашэннем сесіі дэпутатаў Мінскага гарадскога Савета ўнесены змяненні ў Палажэнне «Аб парадку збору за карыстанне месцамі для паркоўкі аўтамабіляў».**

У прыватнасці, як патлумачыла «Звяздзе» эканаміст упраўлення фінансаў Мінгарвыканкама Галіна Вашчавоз, калі час знаходжання аўтамабіля на платнай стаянцы не перавышае 5 хвілін і звязаны з пасадкай-высадкай пасажыраў, збор брацца не будзе.

Мінімальная стаўка збору вызначана ў памеры 0,035 мінімальнай заработнай платы, калі карыстанне месцам на стаянцы не перавышае 20 хвілін. Асноўная стаўка — за адну гадзіну за адно месца — вызначана ў памеры 0,075 мінімальнай заработнай платы. Акрамя таго з'явіліся новаўвядзенні, якіх раней не было. Так, аўтаўладальнікі атрымалі нешта накшталт праязнога — месячны дазвол на паркоўку аўтамабіля на ўсіх стаянках сталіцы за наяўны або безнаяўны разлік. Права на месячнае карыстанне платным месцам для свайго «жалезнага каня» абыдзецца яго ўладальніку ў суму, роўную тром мінімальным заработным платам. Калі раней збор не браўся толькі з вадзіцеляў-інвалідаў, дык зараз ён скасаваны і для ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, якія кіруюць транспартнымі сродкамі.

Усе сродкі ад збору будуць накіроўвацца ў гарадскі бюджэт, а адтуль — на капітальны рамонт праезнай часткі дарог.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ТЭМПЫ РОСТУ АБ'ЁМАЎ ВЫТВОРЧАСЦІ НА НЕДЗЯРЖАЎНЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАХ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ ПЕРАВЫСІЛІ АДПАВЕДНЫ ПАКАЗЧЫК НА ДЗЯРЖАЎНЫХ

**Расце ўдзельная вага недзяржаўных прадпрыемстваў у прамысловасці Гродзеншчыны.**

На пачатак гэтага года яны склалі каля паловы ад агульнай колькасці, ці 47,1 працэнта. Па аб'ёмах выпуску прадукцыі недзяржаўны сектар наблізіўся да дзяржаўнага. За мінулы год прадпрыемствамі апошняга было выпушчана прадукцыі на 21,4 трыльёна рублёў, тады як недзяржаўнымі — на 18 трыльёнаў. Колькасць працуючых склала адпаведна 54,8 і 45,2 працэнта ад усіх работнікаў прамысловасці. Што да тэмпаў росту аб'ёмаў вытворчасці, то недзяржаўныя прадпрыемствы пераўзышлі дзяржаўныя ў суадносінах 128,6 і 115,3 працэнта.

**Ася КУНІЦКАЯ, БелаПАН.**

## Толькі факт

У 1997 годзе ў выніку **праверак і рэвізій** сельгаспрадпрыемстваў краіны выяўлена шмат парушэнняў іх фінансава-гаспадарчай дзейнасці, урон ад якіх склаў 147 мільярдаў рублёў.

Паводле даных даследаванняў Інстытута сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук, **доля веруючых** сярод насельніцтва рэспублікі ўзрасла з 15 працэнтаў у 1988 годзе да 30 працэнтаў у 1990-м, а зараз гэты паказчык набліжаецца да 45 працэнтаў.

У Беларусі толькі на **двухмільённае насельніцтва** Мінска прыпадае каля 32 тысяч наркахворых.

*У ПАЛАЦЕ ПРАДСТАЎНІКОЎ*

## ПРЫСТРЭЛКА ДА ВЕСНАВОЙ СЕСІІ

Да адкрыцця чацвёртай сесіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь застаецца два месяцы, а яе партытура распісваецца ўжо сёння. Асабліва гэта датычыць стратэгічнай часткі планавання заканатворчага працэсу. Гэта тэма чырвонай ніткай праходзіла праз праведзеныя 27-28 студзеня субяседванні спікера ніжняй палаты беларускага парламента Анатоля Малафеева з членамі пастаянных камісій і супрацоўнікамі аддзелаў па забеспячэнню іх дзейнасці. У час гэтых сустрэч абмяркоўваліся бягучыя арганізацыйныя пытанні, вынікі работы дэпутатаў у акругах і вынікі вывучэння парламентарыямі на месцах розных аспектаў жыцця грамадства, шляхі ўзаемадзеяння палаты з іншымі суб'ектамі заканадаўчай ініцыятывы. Анатоль Малафееў асабліва падкрэсліў неабходнасць публічнасці ў рабоце парламента, прыцягнення ўвагі да яе сродкаў масавай інфармацыі.

У перспектыве перавага застанецца за сацыяльна-эканамічнай сферай. Не выпадкова найбольшая колькасць плануемых на веснавую сесію пытанняў ініцыіруецца Камісіяй па бюджэту і фінансах, а таксама Камісіяй па працы, сацыяльных пытаннях, ахове здароўя, фізічнай культуры і спорту. Асноўная задача, адзначалася ў час субяседванняў, заключаецца ў прывядзенні рэспубліканскай заканадаўчай базы ў адпаведнасць з дзеючай Канстытуцыяй. Прадугледжваецца, што да 16 лютага праект парадку маючай адбыцца сесіі будзе канчаткова зацверджаны.

**Сяргей ЦІВАНАЎ.**

## ДЛЯ ЎДАСКАНАЛЕННЯ МІЖПАРЛАМЕНЦКІХ СУВЯЗЯЎ

2-3 лютага ў Мінску пройдуць пасяджэнні Пастаяннай камісіі па знешнепалітычных пытаннях Міжпарламенцкай асамблеі дзяржаў — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў (МПА СНД) і Пастаяннай камісіі па знешніх сувязях і бяспецы Міжпарламенцкага камітэта (МПК) з удзелам старшынь камітэтаў і камісій па міжнародных справах нацыянальных парламентаў краін СНД.

Значны ўклад парламентарыяў краін Садружнасці, у тым ліку і Нацыянальнага сходу Беларусі, якія ўваходзяць у састаў гэтых камісій, у далейшае развіццё міжпарламенцкага супрацоўніцтва, гарманізацыю нацыянальных заканадаўстваў у галіне знешніх сувязяў і бяспекі дзяржаў СНД. Толькі за апошні год на пасяджэннях камісіі МПА па знешнепалітычных пытаннях абмяркоўваліся розныя знешнепалітычныя праблемы, шляхі інтэграцыйнага супрацоўніцтва ў рамках СНД і ажыццяўлення міратворчай дзейнасці. У 1997 годзе падпісана Пагадненне аб супрацоўніцтве паміж Міжпарламенцкай асамблеяй дзяржаў — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў і Парламенцкай асамблеяй Савета Еўропы. Падрыхтаваны праект падобнага пагаднення з Парламенцкай арганізацыяй па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе.

Палата прадстаўнікоў і Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі прымаюць у пачатку наступнага тыдня каля сарака гасцей з краін СНД. Удзельнікі пасяджэнняў абмяркуюць пытанні, звязаныя з падрыхтоўкай да 99-й канферэнцыі Міжпарламенцкага саюза, правядзеннем міжнароднага семінара для парламентарыяў Садружнасці Незалежных Дзяржаў і Лацінскай Амерыкі. Разгледжаны будуць таксама мадэльныя законы аб дыпламатычнай і консульскай службах, аб міжнародных дагаворах, а таксама Канвенцыя аб абароне насельніцтва ад надзвычайных сітуацый прыроднага і тэхнагеннага характару.

**Прэс-служба Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.**

*ПРОСІМ СЛОВА*

## ПЕРШ ЧЫМ ПЛАЦІЦЬ ПАДАТКІ І ПАКРЫВАЦЬ ЛІШНІЯ ЗАТРАТЫ — ТРЭБА ХАЦЯ Б НЕШТА ЗАРАБІЦЬ

Складваецца ўражанне, што ў нашай дзяржаве замест таго, каб даць людзям шанц па сваёй ініцыятыве сумленна зарабіць нейкую капейчыну, робіцца ўсё, што толькі можна, каб загнаць чалавека з яго праблемамі ў кут, пазбавіць усялякай прадпрымальнасці. Чаму мы так лічым? А вось мяркуйце самі. У Стоўбцах недзе болей як дваццаць прыватных таксістаў. Гарадок наш не дужа вялікі, і тым не менш праца па перавозцы пасажыраў знаходзіцца. «Дапамагае» тут і тое, што вельмі дрэнна ходзіць грамадскі транспарт. Скарочаны многія аўтобусныя маршруты. Вось і працуем. Болей часу, праўда, прастойваем у чаканні, у пошуку кліента. Але што зробіш...

Да ўсяго ж астатняга многія з прыватнікаў стала працуюць у іншых месцах. Але ва ўмовах, калі атрымліваюць зарплату, калі заробак часам роўны не болей як мільёну рублёў, вымушаны вольны час аддаваць і таксаванню, калі можна так сказаць. Але ж, здаецца, нічога дрэннага тут няма. Мы не дзяром з людзей тры шкуры. Часам аказваем кліенту паслугу па цэнах шмат ніжэйшых, чым ён вымушаны быў бы выкладзіць дзяржаўнаму таксі. Ды і працуем жа на ўласных аўтамабілях, якія яшчэ і рамонту часам патрабуюць.

Як раней складваліся нашы адносіны з дзяржавай? Акрамя таго, што, атрымаўшы ліцэнзію, зарэгістраваўшыся ў выканкаме, мы штомесяц наперад выплачвалі мінімальныя зарплаты. Мы падлічвалі: калі нават працаваць толькі на таксі, то болей як 2—2,5 млн. рублёў ніяк не заробіш. А хто сумяшчае перавозку пасажыраў з іншай працай, то заробак звычайна роўны не болей як 2 млн. рублёў. Улічыце затраты на бензін, нават самы дробны рамонт, — і ўжо два, а то і болей мільёнаў пададуцца вам зусім смешным заробкам.

Але нас фактычна пазбаўляюць і гэтага. І вось якім чынам. Ад нас патрабуюць наступнае. У загадзе па Міністэрству транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь ад 23 мая 1997 г. гаворыцца, у прыватнасці, наступнае: «Аўтамабіль, які выкарыстоўваецца ў якасці таксі, павінен быць: афармлены апазнавальнымі знакамі «Таксі» ў адпаведнасці з патрабаваннямі нарматыўных актаў, зацверджаных Міністэрствам транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь». І далей: «Абсталяваны таксаматорам, уключаным у Дзяржаўны рэестр... а таксама зарэгістраваным ва ўстаноўленым парадку ў органах падатковай інспекцыі». Не крытыкуючы дадзены дакумент, мы ўсё ж здзіўляемся, чаму розныя патрабаванні прад'яўляюцца да дзяржаўных і прыватных таксі?

У выніку выканання гэтага патрабавання дзейнасць прыватных таксістаў у Стоўбцах спыненая. Што ж датычыцца таксометраў, то ад нас патрабуюць, каб мы замаўлялі іх менавіта ў Наваполацку, на заводзе «Вымяральнік». Каштуе ён, дарэчы, 5 млн. 418 тысяч рублёў. Амаль як тэлевізар. Хаця, відавочна, на заводзе не дужа перажываюць за гэта, бо ўпэўненыя, што пасля дзяржаўнага патрабавання іх прадукцыя будзе разыходзіцца імгненна. Прыватнікі ж проста вымушаны будуць набываць менавіта наваполацкія таксометры.

Пакуль жа работа прыватнікаў спыненая. Два месяцы стаўбцоўскія ўлады далі нам на роздум. Вось і думаем... А тым часам і людзі нездаволеныя, бо не маюць магчымасці, асабліва ўвечары, дабрацца ў той альбо іншы населены пункт. Што ўжо казаць пра нас... Асабліва пра тых, для каго прыватнае возніцтва з'яўлялася асноўным месцам працы. Не імкнучыся пакрыўдзіць кагосьці асабіста, мы ўсё ж дзівімся, якой выбіральнай з'яўляецца сацыяльная падтрымка насельніцтва. Нас не падтрымліваюць, а, наадварот, — пазбаўляюць заробку.

**ДУБАТОЎКА, БАРТАШЭВІЧ, МАХНАЧ, ПІНЧУК і іншыя**

*г. Стоўбцы.*

*Мы звярнуліся з просьбай удакладніць сітуацыю ў Міністэрства транспарту і камунікацый. Начальнік упраўлення аўтамабільных перавозак Аляксандр Сямёнавіч Мазураў удакладніў, што да 1 красавіка прадоўжаны нормы ўвядзення электронных лічыльнікаў на прыватных таксі. Калі ў машыне прыватніка дагэтуль быў устаноўлены механічны лічыльнік, то тэрмін змены на электрычны можа доўжыцца да 1 ліпеня. Усе гэтыя адтэрміноўкі сведчаць, што да 1 красавіка (а ў іншым выпадку да 1 ліпеня) можна працаваць па-ранейшаму. Што ж датычыць змен у прынцыпе, узмацнення такім чынам патрабаванняў да таксістаў-прыватнікаў, то пазбегнуць усяго гэтага наўрад ці ўдасца.*

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 29 СТУДЗЕНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Абсалютбанк | 42700 | 43500 | 23500 | 24000 | 7000 | 7100 | 636-080 |
| Белаграпрамбанк | 41000 | | 23300 | | 6600 | | 285-716 |
| Беларускі біржавы банк* | 42500 | 43500 | 23100 | 24100 | 6800 | 7200 | 685-523 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 31710.00 | | 17526.12 | | 5240.00 | | Курс на 30.01.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.0250 | | 3.3203 | | 10000 BLR - 1.4026 | | |

*Каціруецца ўкраінская грыўня

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрознівацца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| пазабіржавы міжбанкаўскі курс | 43000 | 43100 | 23796 | 23858 | 7104 | 7122 | |

## ЗВЯЗДА-98 ПАДПІШЫЦЕСЯ СЁННЯ!

**Гэтыя словы мы адрасуем тым прыхільнікам газеты, якія не паспелі ці не змаглі падпісацца на «Звязду» раней. У вас ёсць такая магчымасць цяпер. Ва ўсіх паштовых аддзяленнях падпіска прымаецца да 10 числа перадпадпіснога месяца.**

**Напамінаем: індэкс «Звязды» — 63850.**

**КОШТ ПАДПІСКІ** на месяц — *24 тысячы рублёў*, на тры — *72 тысячы рублёў.*

***«Звязда» — гэта самая аператыўная і патрэбная для кожнай сям'і інфармацыя! ЗАСТАВАЙЦЕСЯ З НАМІ!***

*ПРАБЛЕМА*

# ЦІ СТАНЕ НАРАЧ КУРОРТНАЙ ЗОНАЙ?

**Сярэдзіна студзеня выдалася сёлета надзіва цёплай. Звычайна ў гэты час паўсюдна трашчаць маразы, лютуюць вятры і завірухі. А тут быццам напрыканцы сакавіка — палеткі чыстыя ад снегу, навокал блішчаць лужыны вады, так і глядзі, што пралескі расцвітуць. І толькі возера Нарач застыла ў дрымотным сне, усё яшчэ скаванае ледзяным панцырам. Але ён пасінеў, набрыняў, там-сям ужо добра бачны значныя палонкі.**

Спыняемся на абочыне шашы, што чорнай дугой ахоплівае берагі. Само возера — усяго за некалькі метраў ад дарогі. З прыемнасцю ўдыхаем непаўторны водар паветра. Гэта зусім не тое што ў Мінску, дзе нават узімку яно насычана вокісламі ад шматлікіх кацельняў і выхлапных газаў аўтамабіляў.

Позірк міжволі спыняецца на вялікай палонцы, што ўтварылася ля самага берага. Што такое? Бліскучая паверхня вады пакрыта нейкімі дзівоснымі ўзорамі. Усё зразумела: сюды трапілі рэшткі паліва ці мазуту, змытыя вадой. Убачанае прымусіла тужліва сціснуцца сэрца: ці даўно Нарач лічылася эталонам чысціні нашых вод? Але ж і сюды, як відаць, дайшла «цывілізацыя». Некаму ж у свой час прыйшло ў галаву пралажыць побач з самым берагам рэліктавага вадаёма дарогу, ды яшчэ пакрыць яе асфальтам? Дарэчы, яна з абодвух бакоў узяла ў моцныя абдымкі ўсю Нарач. Зямля аж стогне ад бясконцай чарады грузавікоў, легкавушак, што праносяцца побач. Колькі ж мазуту і паліва змываецца з-пад колаў і трапляе ў возера? А колькі вокіслаў азоту і іншых шкодных рэчываў асядае тут?

Вядома, сёння дарогу адсюль нікуды не перанясеш — пра гэта раней думаць трэба было. Ды і ўкладзены ў яе ўжо многія мільярды рублёў. Як не перанясеш і шматлікія будынкі здраўніц і пансіянатаў, што выраслі апошнім часам у маляўнічых барах нарачанскай зоны. А вось як усё гэта багацце арганічна ўпісаць у прыроду? Як зрабіць, каб чалавек жыў з ёю ў згодзе, карыстаўся яе шчодрымі дабротамі, да таго ж не наносячы экалагічнай шкоды навакольнаму асяроддзю? Пра гэта сёння галава баліць і ў кіраўнікоў рэспублікі, і ў навукоўцаў, і, вядома ж, у тых, хто пражывае ў тутэйшых мясцінах. Але баліць па-рознаму. Як па-рознаму бачаць яны і вырашэнне гэтай няпростай задачы.

Летась праходзіў двухдзённы семінар навукоўцаў, прысвечаны праблемам тутэйшага краю. Колькі цікавых прапаноў зляцела тады з вуснаў выступоўцаў, колькі трывожных слоў прагучала ў абарону унікальнага возера! Асабліва самотна было на сэрцы, калі прыводзіліся шматлікія прыклады навуковых назіранняў: катастрафічна пагаршаецца чысціня нарачанскіх вод, там менш стала кіслароду, павялічылася колькасць водарасцяў, пачалі засыхаць сосны ў густых прыбярэжных барах... Былі і цікавыя прапановы, як з найменшымі стратамі выйсці з гэтага экалагічнага катаклізму. Толькі некаторыя з іх грашылі павярхоўнасцю, а пэўная частка патрабавала вялікіх капукладанняў. Напрыклад, настойліва даводзілася думка аб неабходнасці стварэння тут нацыянальнага парку.

Усім выдатны гэты праект: вялікую палёгку абяцае і возеру, і ўсяму навакольнаму асяроддзю. Адно кепска, што для яго стварэння спатрэбяцца велізарныя сродкі. А дзе ўзяць тыя грошы, калі іншы раз паўстае пытанне, як своечасова людзям выплаціць зарплату, пенсіі, стыпендыі... Да таго ж прапануецца рэзка абмежаваць гаспадарчую дзейнасць на ўсёй плошчы, якая будзе вымярацца многімі тысячамі гектараў. А куды падзець сотні хлебаробаў, механізатараў, жывёлаводаў, што працуюць на зямлі і іншага занятку для сябе не бачаць? Зноў жа, а куды падзець шматлікія здраўніцы, якія пабудаваны ўжо і дзе штогод папраўляюць сваё здароўе дзесяткі тысяч чалавек? А ў постчарнобыльскі час гэта праблема яшчэ больш абвастраецца. Куды падацца сотням тысяч пацярпелых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС? Дзе папраўляць здароўе ім і іх дзецям, унукам? На замежныя курорты грошай не так проста назбіраць. А таму роля Нарачы, менавіта як рэспубліканскай здраўніцы, узрастае. І гэту праблему ніяк не абмінуць, які б статус ні надалі нарачанскаму краю.

У сувязі з гэтым прыпомнілася нядаўняя размова з кіраўніком Мядзельскай раённай адміністрацыі Іосіфам Варановічам. Яшчэ да сярэдзіны мінулага года ён узначальваў мясцовае райаграпрамэнерга — лепшае не толькі на Міншчыне, але і ў рэспубліцы. Спакойнае месца, добрая зарплата. І раптам — круты пералом у лёсе.

— Можа, адна з галоўных прычын, што паўплывала на гэта маё рашэнне стаць кіраўніком адміністрацыі, якраз і заключалася ў тым, каб вывесці наш край, як кажуць, у людзі, — уздыхае Іосіф Сцяпанавіч. — Колькі бяссонных начэй правёў, колькі ўсяго перадумаў. Ужо тады, калі «сваталі» на высокую пасаду, паставіў умову, каб дапамаглі надаць нарачанскаму краю статус курортнай зоны. У гэтым і толькі ў гэтым — вузел шматлікіх праблем, якіх адным махам ні рассячы, ні, тым больш, развязаць нельга.

Як растлумачыў Іосіф Сцяпанавіч, кіраўніцтва рэспублікі курортнай зонай пачало займацца з 1981 года, калі была прынята пастанова Савета Міністраў БССР «Аб схеме комплекснага выкарыстання і аховы водных і зямельных рэсурсаў басейна возера Нарач», дзе многія міністэрствы і ведамствы абавязваліся ўрэшце вызначыцца адносна будучыні гэтага унікальнага краю, з тым каб сумесна вырашыць пытанні, звязаныя з паляпшэннем экалагічнай абстаноўкі ў дадзеным рэгіёне. Аднак у рэчышча практычнага вырашэння гэта праблема трапіла недзе толькі ў 1985 годзе.

Трэба зазначыць, што за дзесятак гадоў зроблена не так ужо і мала. З водаахоўнай зоны вынесены або рэканструяваны жывёлагадоўчыя фермы, забаронена выкарыстанне ядахімікатаў, абмежавана ўнясенне мінеральных угнаенняў, 3700 гектараў ворыва пераведзены ў разрад сенажацяў і пашаў, па берагах вадаёмаў на 680 гектарах былых сельгасугоддзяў пасаджаны лес.

Пэўныя работы праведзены і па добраўпарадкаванню курортнага пасёлка Нарач і навакольных населеных пунктаў, спынена меліярацыя, пабудаваны 3 водазаборныя сістэмы. З прыбярэжнай зоны азёр Нарач і Баторына вынесена 57 жылых дамоў і іншых пабудоў. Прыняты шэраг мераў па навядзенню грамадскага парадку ў курортнай зоне, абмежаваны заезд і праезд у зону індывідуальнага і грамадскага транспарту.

Аднак у сувязі з тым, што на тэрыторыі раёна 13 здраўніц, каля 50 азёр, 70 тысяч га лясных угоддзяў, у летні час тут у некалькі разоў узрастае колькасць адпачываючых. Вось і даводзіцца іншы раз ледзь не пажарнымі метадамі неяк уладкоўваць усіх прыезджых. А многія едуць сюды, наогул не ўяўляючы ўсёй процьмы турбот, што звязана з іх знаходжаннем у гэтым краі.

Пытанне аб наданні нарачанскаму краю статусу курортнай зоны ставілася ўжо не аднойчы і на самых розных узроўнях. Ажыццяўленне гэтай задумы дало б магчымасць крыху пераарыентаваць усю вытворчую дзейнасць рэгіёна, максімальна скіраваць яе менавіта на праблемы аздараўлення людзей. З раёна ў рэшце рэшт знялі б абавязковыя планы паставак сельскагаспадарчай прадукцыі, можна было б арганізаваць перапрацоўку прадуктаў непасрэдна на месцы, павысіць культуру абслугоўвання наведвальнікаў, тым самым прыцягнуць новых жадаючых, а разам з тым і дадатковыя сродкі, якія можна было б накіроўваць у экалогію. Без грошай, на адным голым энтузіязме многа не зробіш.

Аднак, каб пачаць усе гэтыя пераўтварэнні, неабходна прыняць адпаведны закон аб курортнай зоне. Без гэтага ўсе намеры так і застануцца толькі добрымі пажаданнямі. А на першым часе хоць бы вырашыць тры найбольш важныя праблемы. Найперш трэба стварыць у раёне спецыяльную экалагічную міліцыю. Па-другое, выдзеліць сродкі на стварэнне экалагічных пастоў. І нарэшце, узаконіць пытанне аб экалагічным падатку з усіх транспартных сродкаў, што праязджаюць па курортнай зоне.

І, як зазначыў напрыканцы гутаркі кіраўнік раённай адміністрацыі, праблем тут безліч. Але ў бліжэйшы час хоць бы вырашыць гэтыя тры. Тады б і іншыя справы зрушыліся з месца.

**Уладзімір ГОЙТАН,**
*Мядзельскі раён.*

ГЛЫБІНКА

**Кожны, хто ўпершыню трапіць на Браслаўшчыну зімой, ды яшчэ такой непрывабна-шэрай, як сёлетняя, спачатку, напэўна, са шкадаваннем падумае: «Не ў час — летам бы сюды». Але потым, калі ў гэтага чалавека ёсць вочы і ён прыгледзіцца, то, не зважаючы ўжо на туман і прыглушаныя фарбы, усё роўна застанецца зачараваны ад знаёмства з гэтым краем. Бо не менш, чым летнія шыкоўныя краявіды, напоўненыя блакітам, зялянінай і золатам, яго абавязкова ўразіць возера, якое нечакана з'явіцца ля дарогі, як запацелае люстэрка, ці велічны касцёл, які выплывае раптам насустрач з імглы ва ўсёй сваёй ганарлівай стрыманай красе, не аздобленай і не заглушанай тыннай квеценню лета... А яшчэ ў гэтым краі ў любую пару года захоўваецца трывалая гістарычная аура, якую многія нашы мясціны даўно ўжо страцілі. Здаецца, іменна тут яшчэ чуваць адгалосак былой славы Вялікага княства Літоўскага, іменна тут зямля памятае яшчэ пошчак капытоў яго воінаў... Дзівосны край!**



# СЯРЭДНЕВЕЧНАЯ І НАЙНОЎШАЯ ГІСТОРЫЯ АДНОЙ ШКОЛЫ

Таму я не здзівілася асабліва, калі даведалася, што іменна тут, у старажытным мястэчку, якое носіць цяпер безаблічна-стандартны тытул «гарадскі пасёлак», гісторыя школы налічвае пяць соцень гадоў. Таму і не стала чакаць больш спрыяльнага і цяплейшага надвор'я, а паехала ў мястэчка Відзы цяпер, каб пазнаёміцца з «юбіляркай» бліжэй...

У Відзах шмат цікавага. Узяць хаця б стараверскую абшчыну, якая існуе ў пасёлку спрадвеку і мае свой храм пабудовы пачатку стагоддзя (пра відзаўскіх старавераў пісаў нядаўна мой калега Анатоль Кляшчук). Ці чырвоны касцёл, які разбурылі ў першую сусветную, аднавілі ў канцы 20-х, зрабілі з яго льнасховішча ў сярэдзіне 50-х, і толькі 10 гадоў таму вярнулі вернікам. Ці памежнае становішча мястэчка: да мяжы з Літвой ад Відзаў — 8 кіламетраў, да мяжы з Латвіяй — не нашмат больш... А вось школу як мясцовую «славутасць» наўрад ці да нядаўняга часу назваў бы хто з мясцовых. Ну дык што, што ў 1979 годзе яна адзначыла сваё 225-годдзе? Для старажытных Відзаў і не менш старых паселішчаў навокал — гэта і не ўзрост зусім...

І раптам аказалася, што школа адлічвае свае гады амаль што нароўні з самім мястэчкам. І праз няпоўныя дваццаць гадоў пасля таго, «нязначнага», юбілею рыхтуецца святкаваць 500-годдзе!

Год таму браслаўскі краязнавец Кастусь Шыдлоўскі натрапіў на зборнік вядомага польскага даследчыка гісторыі Вялікага княства Літоўскага Ежы Ахманьскага «Старажытная Літва». У ім знайшоўся запіс аб зараджэнні і развіцці парафіяльных школ на землях ВКЛ у XV—XVI стагоддзях. На падставе архіўных матэрыялаў аўтар склаў спісы парафіяльных школ. Паводле дакументаў, якія захаваліся, у XV стагоддзі было згадана толькі дзесяць такіх школ. І сярод гэтай дзесяткі — парафіяльная школа пры касцёле бернардынцаў у Відзах, упамінанне аб якой датавана 1498 годам. Раней, чым у Віцебску, Полацку, Нясвіжы, Мінску! Ёсць чым ганарыцца... Але сведчанне польскага гісторыка, няхай сабе і пацверджанага архівамі, нашым краязнаўцам здалося недастаткова. Яны вырашылі знайсці сапраўдную дакументальную крыніцу, у якой магла ўзгадвацца школа. Знайшоўся фундуш (грашовая раскладка), датаваны 1498 годам, які віленскі біскуп Войцах Табар надаў касцёлу ў Відзах. Дакумент, напісаны на латыні, узяўся перакласці археолаг з Гродна Генадзь Семянчук. І хутка паведаміў: так, сярод спіса грашовых расходаў ёсць радкі аб школе пры касцёле. Факты пацвердзіліся...

Да гэтага годам заснавання школы ў Відзах лічыўся 1754-ты, калі, згодна з пісьмовымі крыніцамі, мясцовы пан Антон Ваўжэцкі заснаваў школу пад патранажам езуітаў. Яго сын манахаў прагнаў, а ўнук, Томаш Ваўжэцкі, таксама скончыў школу ў Відзах і стаў правай рукой паўстанца Тадэвуша Касцюшкі.

А ў 1803 годзе ў Відзах была адчынена павятовая школа, якая дзейнічала пад патранажам Віленскага універсітэта і лічылася адной з самых лепшых у губерні. Школа мела двухпавярховы будынак з 4 заламі, 8 пакоямі і капліцай. За шэсць гадоў вучні вывучалі і царкоўныя, і грамадскія, і дакладныя навукі. Па заданню універсітэта шкаляры вялі метэаралагічныя назіранні. Вучыцца было складана: так, напрыклад, у 1829 годзе з 98 вучняў 33 былі пакінуты на другі год... Затое тыя, хто закончыў курс навучання, мелі права паступіць ва універсітэт. Потым школу закрылі, каб праз колькі гадоў адчыніць дзве — мужчынскую і жаночую.

Пасля рэвалюцыі, калі Відзы былі «пад Польшчай», у 1935 годзе для школы пабудавалі новы двухпавярховы цагляны будынак. У час вайны ў ім размяшчаўся нямецкі гарнізон, і партызаны спалілі яго разам з пастаяльцамі. Але амаль адразу пасля вайны абгарэлыя сцены адрамантавалі, і да сённяшняга часу Відзаўская сярэдняя школа, пераемніца той, першай, 500-гадовай, месціцца ў будынку, узведзеным польскімі ўладамі больш як 60 гадоў таму. Хаця, як падумалася ўжо пасля, «месціцца» — гэта занадта сказана. «Туліцца» — больш прыдатнае ў дадзеным выпадку слова...

...Мы сядзім з педагогам-арганізатарам Леанідам Дзіхцяровым у адзіным адносна свабодным у школе пакоі, кабінеце псіхолага, гартаем рукапісную гісторыю школы, якую разам з вучнямі склаў калісьці настаўнік гісторыі, апантаны сваёй справай чалавек Сяргей Адамовіч. А я нене ды кідаю зацікаўлена-спалоханы позірк на грубку ў куце, у якой зусім па-дамашняму патрэскваюць дровы. У рэшце рэшт Леанід Усцінавіч пачынае не менш здзіўлена паглядаць на мяне, і даводзіцца збянтэжана тлумачыць, што я, вядома, бачыла печкі ў школе, сама вучылася ў былым ксяндзоўскім доме, але там яны былі проста прадмета інтэр'еру, а абагравалі класы звычайныя батарэі. А каб вось так — пячное ацяпленне ў двухпавярховай школе гарадскога пасёлка ў канцы XX стагоддзя... Карацей, здзіўленне было зусім не беспадстаўным. «Думалі нам пракласці паравое ацяпленне, — тлумачыць настаўнік, — а потым сталі планаваць будаўніцтва новай школы, вырашылі, навошта лішнія грошы траціць. Вось і засталіся цяпер без новага памяшкання і пры печках. І змен бліжэйшым часам, па ўсім відаць, не прадбачыцца...»

Мікалай Пішчулёнак, які ўзначальвае Відзаўскую школу ўжо 23 гады, расказвае: «Што новы будынак школе патрэбен, было ясна і 20 гадоў таму. Тады ў нас вучылася па 700 дзяцей, займаліся ў дзве змены. На працягу ўсіх гэтых гадоў я пастаянна ставіў пытанне аб будаўніцтве новай школы ў пасёлку. Нарэшце, у канцы 80-х з'явілася надзея на хуткае наваселле. Быў нават распрацаваны праект будынка. Але тут развалíўся Саюз, пра праект забыліся, і перспектыва пераехаць калі-небудзь у новую школу здаецца цяпер яшчэ больш далёкай, чым дваццаць гадоў таму. Застаецца спадзявацца хаця б на капітальны рамонт, які ў раёне паабяцалі гадоў праз пяць...»

А пакуль у школе цесна. Пачатковыя класы займаюцца асобна, у прыбудове. Майстэрні таксама ў асобным доміку. Драўляная, прабачце, прыбіральня — на вуліцы. Спартзала працуе па восем гадзін у дзень. Усе кабінеты занятыя пад класы; завуч не мае свайго пакоя і складае расклад у настаўніцкай, дзе нярэдка бывае па трыццаць чалавек. Гэты самы завуч, Галіна Ільюшонак, падзялілася асноўнай праблемай, якая ўзнікне толькі ў новым навучальным годзе, але ад якой ужо сёння баліць галава: плануецца, што будуць тры першыя класы замест двух, як звычайна. І дзе гэты «лішні» клас размясціць?..

Хапае ў школе і іншых праблем. Аб іх настаўнікі гавораць неахвотна, нібы яны самі вінаватыя ў тым, што ў школе не хапае нават мячоў для фізкультуры, што камп'ютэры такія старыя і дабітыя, што нават пыл з іх змахнуць страшна (нехта разумны параіў звярнуцца ў банк, каб там прадалі ўжо спісаныя машыны, але банк «заламаў» такую цану!). Што няма грошай на нарыхтоўкі для ўрокаў працы (гэта сярод лесу жывучы!) і настаўнік, запрогшы школьнага коніка, едзе ў мясцовае ПТВ — «нажабраваць» аполкаў, якія там лічацца для работы непрыдатнымі. Што на штогадовы касметычны рамонт класаў даводзіцца збіраць грошы з бацькоў, а калі іх не хапае, то дакладваць са сваёй зусім не багатай кішэні... Праўда, мясцовы калгас «Наперад» дапамагае, чым можа, але і ён сёння можа няшмат...

А зусім побач — мытня, на якой працуюць выпускнікі Відзаўскай школы. Чаму б не ўзяць родную школу пад апеку? Тым больш, прыклады з гісторыі і недалёкіх мясцін ёсць: у 1596 годзе Леў Сапега спецыяльна для школы ў Іказні (таксама на Браслаўшчыне) адпісаў даходы з мытнай і гарэлачнай арэнды... А Сапега, лічаць, самы разумны ў дзяржаве чалавек быў...

Праблемы праблемамі, а да юбілею школа рыхтуецца ўжо сёння. «Праўда, як праводзіць асноўныя мерапрыемствы, не ведаю. У нас няма ніякай гукавой апаратуры, замест мікрафонаў карыстаемся ўзмацняльнікамі ад старога кінаапарата, якія ўвесь час ламаюцца», — гаворыць Ларыса Давыдава, завуч па выхаваўчай рабоце. Але свята будзе. І вучні, і настаўнікі ў гэтым упэўненыя. Як жа інакш — такое ж толькі раз у пяцьсот гадоў бывае.

Гасцей на свяце будзе шмат. Самыя галоўныя, канешне, — былыя вучні. Многія з іх — вядомыя людзі, студэнты беларускіх ці польскіх ВНУ (сярэдняя колькасць паступаючых у Відзаўскай школе — 70 працэнтаў). Нават віцэ-мэр Вільнюса калісьці грэўся каля грубкі ў цесным класе. (Дарэчы, энтузіясты спадзяюцца, што з яго дапамогай у Віленскім архіве можна будзе знайсці яшчэ якія-небудзь звесткі пра тую, першую школу ў Відзах)...

Вяртаючыся ў Мінск, везучы з сабой запрашэнне на святкаванне і цэлы мех уражанняў, міжволі злавіла сябе на разважанні. Здаецца, не так ужо і важна, ступяць сённяшнія відзаўскія першакласнікі ў новую школу ці давучацца ў старых утульных класах пры цяплe грубкі. Галоўнае — каб помнілі і ведалі пра тыя пяцьсот гадоў, пра Відзы, пра мінулае — далёкае і зусім блізкае. Каб не парушылі гэту далікатную дзівосную ауру свайго краю. Каб не забываліся...

Ва ўсякім разе, мне здалося, што ў роднай школе ім пра гэта забыцца не дадуць.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**
*Браслаўскі раён.*

*МЯСЦОВАЯ ЎЛАДА*

# КОЖНЫ СЕЛЬСАВЕТ ПРАЦУЕ НЕ ТОЛЬКІ НА СВОЙ АЎТАРЫТЭТ...

## Што прымусіла Бялыніцкі райвыканкам узмацніць дзейнасць гэтых нізавых органаў самакіравання?

Прызнацца, мяне крыху здзівіла, што ў Бялынічах раённы выканаўчы камітэт і раённы Савет дэпутатаў знаходзяцца не толькі ў адным памяшканні, жывуць пад адным дахам, але ў іх кіраўнікоў нават прыёмная агульная. Больш таго, старшыню райсавета Аляксандра Ганчука я сустрэў і пазнаёміўся з ім у кабінеце кіраўніка райвыканкама Аляксандра Агеева.

— А нам дзяліць няма чаго, — адразу слушна зазначыў гаспадар пакоя. — Адны ў нас абавязкі, адны задачы. Вось іх разам і вырашаем.

— Цяпер, напрыклад, сур'ёзна займаемся сельсаветамі, — падхапіў гаворку А. Ганчук. — Шмат тут яшчэ спраў, але першыя зрухі ўжо ёсць...

Аляксандр Андрэевіч на сельсавецкай рабоце за 17 гадоў, як кажуць, зубы з'еў. Так што адмыслова ведае ўсе яе «плюсы» і «мінусы», а перш-наперш «вузкія месцы», якіх тут не злічыць, бо ліквідаваць ці расшырыць іх пакуль не так проста.

У раёне не так многа адзінак гэтай мясцовай улады — усяго 8. А вось структура іх па колькасці насельніцтва і плошчы самая розная. Скажам, самы буйны — Вішоўскі — аб'ядноўвае чатыры калгасы, ПМК і вадгас. Ёсць і такія, што на тэрыторыі сельсавета знаходзяцца дзве-тры гаспадаркі або ўсяго адна.

Але справа, вядома, не ў структуры. Галоўнае — каб кожны гэты орган мясцовай улады не з'яўляўся нейкім пабочным назіральнікам, а спраўна выконваў свае функцыі, ускладзеныя на яго абавязкі. Дзейнічаць так ён зможа, калі будзе адказваць за ўсё, што адбываецца на падведамнай яму тэрыторыі, стане тут паўнамоцным прадстаўніком дзяржаўнай улады, сапраўдным гаспадаром.

А што, спытаеце, ён такім не быў? На жаль, не.

Калі зрабіць нават невялікі экскурс у недалёкую гісторыю, то можна сказаць адно: лёс у сельсаветаў склаўся незайздросны. Нібыта надзеленыя не такімі ўжо малымі правамі і паўнамоцтвамі, яны па сутнасці не маглі іх рэалізаваць і нічога істотна важнага, сур'ёзнага ніколі не вырашалі. Чаму? Па розных аб'ектыўных і суб'ектыўных прычынах сельвыканкамы ператварыліся ў своеасаблівыя канторы па выдачы даведак-пісулек, і таму не мелі ў людзей высокага аўтарытэту.

Не ўзрос, а, наадварот, яшчэ больш упаў прэстыж гэтых самых масавых дзяржаўных органаў, асабліва ў апошняе дзесяцігоддзе. У той час, як былая заканадаўчая і новая выканаўчая дзялілі паміж сабой уладу, вызначалі, хто з іх галоўны і хто каму павінен падпарадкоўвацца, пра сельсаветы проста забыліся, нібыта яны наогул не існавалі. У такіх абставінах і ўмовах большасць з іх адпаведна так і працавалі.

— Сапраўды, — пагаджаецца Аляксандр Андрэевіч, — гэта быў перыяд бяздзейнасці, нейкай неабавязковасці. Той жа старшыня сельсавета ні за што не адказваў, таму нічога не рабіў і не імкнуўся рабіць.

— А чаго тут здзіўляцца і нечага патрабаваць, калі роля сельскага Савета аказалася зведзенай амаль на нішто? — уступіў у размову першы намеснік старшыні райвыканкама Мікалай Гузнякоў. — Вось зараз мы і выпраўляем гэту недарэчную памылку. Якім чынам? Перш за ўсё стараемся ўзняць ролю старшынь сельсаветаў, павысіць іх выканаўчую дысцыпліну і асабістую ініцыятыву.

Кадравую праблему тут вырашылі зусім проста: на сесіях сельсаветаў паставілі пытанне аб замене іх старшынь. І ў чатырох з васьмі (50 працэнтаў) ім была дадзена адстаўка.

— Зараз перад сельсаветамі мы паставілі такую задачу, зазначае М. Гузнякоў. — Усе пытанні, з якімі звяртаюцца людзі, яны павінны вырашаць на месцы. Вядома, у межах сваёй магчымасці і кампетэнцыі. І ў нас строгае правіла: калі ў райвыканкам ці вышэйшую інстанцыю паступіць пісьмо альбо скарга, якую павінен быў разгледзець, але не разгледзеў сельвыканкам, то гэта лічыцца своеасаблівым «ЧП», якое моцна адаб'ецца на выніках усёй яго работы.

Рашэннем райвыканкама зацверджаны спіс паказчыкаў, па якіх штомесячна падводзяцца вынікі спаборніцтва (так-так, спаборніцтва) сельсаветаў, іх выканкамаў і дэпутатаў. Такіх паказчыкаў вызначана 16 — закуп малака ў насельніцтва, выкананне даходнай часткі бюджэту, аб'ём рознічнага тавараабароту, бытавых паслуг, аказаных насельніцтву, барацьба са злачыннасцю і мерапрыемствы па яе зніжэнню і г. д.

Такім чынам, пры выкананні кожнага пункта налічваецца 1 бал, а пры невыкананні — ён мінусуецца. Калі сельсавет набраў ад 10 да 16 балаў, то яго кіраўніцтва атрымлівае 100 працэнтаў прэміі. Здолеў наскрэбці 7—10, мае толькі палову яе. Не змог набраць нават сямі балаў — ніякай прэміі няма. А гэта ўжо б'е не толькі па аўтарытэту сельсавета, але і па кішэні яго старшыні.

Лепшы ў раёне Галоўчынскі сельскі Савет амаль два гады ўзначальвае Аляксандр Шчацінка. Цэнтрам гэтага сельсавета з'яўляецца вялікая вёска, якая пазалетась адзначыла сваё 925-годдзе. Але, як апавядаў Аляксандр Лаўрэнцьевіч, пэўна, ніколі яна не была так незаслужана і недаравальна запушчана, як у апошні час.

Яшчэ ў 1988 годзе ў Галоўчыне пачалі пракладваць аб'язную дарогу, якая вельмі патрэбна, — гаворыць мой субяседнік. — Было выведзена з севазвароту шмат урадлівай зямлі, а толку ніякага. І толькі па той прычыне, што будаўнікі спынілі работу і чатыры гады іх тут ніхто не бачыў.

А. Шчацінка выкарыстаў усю дадзеную яму ўладу, усе магчымасці і сваю прабіўную сілу, каб аднавіць будаўніцтва аб'язной дарогі, зрабіць яе здатачным аб'ектам. Гэтак жа ён дабіўся таго, што была заасфальтавана зусім забытая-закінутая вуліца ў Галоўчыне, хоць гэта каштавала 100 мільёнаў рублёў, дабудаваны 12-кватэрны дом, даведзена да ладу ўчастковая бальніца, пракладзена 406 метраў водаправода, вернуты да жыцця камбінат бытавога абслугоўвання, які бяздзейнічаў апошнія тры гады. Але ж на ўсё гэта спатрэбіліся немалыя матэрыяльна-фінансавыя сродкі. Дзе іх узяў сельсавет?

Аляксандр Лаўрэнцьевіч лагодна ўсміхаецца і адказвае:

— Калі я еду да старшыні калгаса і ён бачыць, што мяне нешта турбуе, то і ён не хоча, не можа застацца ўбаку. І дапамагае. Калі не з першага, дык з другога, трэцяга, пятага, дзесятага захаду. А я такі, што ад задумы і просьбы сваёй не адступаю.

### УЛАДА ПАВІННА БЫЦЬ УЛАДАЙ

**Каментарый члена Савета Рэспублікі Беларусь, старшыні райвыканкама Аляксандра АГЕЕВА:**

*— У мяне яшчэ з дзяцінства сфарміравалася такое ўсведамленне, што ўлада павінна быць уладай. Я нарадзіўся ў вёсцы і змалку лічыў: старшыня сельсавета — гэта велічыня і асоба, якая абавязана вырашаць тут усе пытанні. І калі чатыры гады таму мяне выбралі кіраўніком райвыканкама, заўсёды імкнуўся растлумачыць старшыням сельсаветаў сваю пазіцыю адносна іх улады. А менавіта, што яна даецца ім людзьмі для таго, каб яны, канцэнтруючы яе, вырашалі праблемы людзей. І калі даводзіцца чуць, што недастаткова ўлады, не хапае грашовых сродкаў, каб скрануць з мёртвай кропкі тое ці іншае складанае пытанне, разумеючы няпростую сітуацыю, кожны раз пытаюся ў такога бездапаможнага: скажы, даражэнькі, што ты ў дадзеным выпадку канкрэтна зрабіў ці хоць спрабаваў зрабіць? Як высвятлялася, нічога. Зразумела, такі дзяржаўны работнік дадзеную яму ўладу, закумуліраваную ў выканкаме, не выкарыстаў і не мог выкарыстаць у дачыненні да кіраўнікоў гаспадарак, іх спецыялістаў, асобных людзей, — адным словам, да тых, хто абавязаны быў выканаць даручаную справу.*

*І наадварот, калі старшыня сельсавета ці выканкам канкрэтна абавязваў кіраўніка гаспадаркі, нейкую іншую асобу выканаць сваё рашэнне і дабіваўся гэтага, мы бачылі, што ён правільна ажыццяўляе сваю пазіцыю і ёсць канчатковы вынік. Не мае значэння, вялікі ці малы, але ён дасягнуты. Значыць сістэма мясцовага самакіравання, мясцовая ўлада ёсць. І, як я разумею, галоўнае, каб такая сістэма дзейнічала. Павінна быць штодзённая, карпатлівая і сур'ёзная работа. Зыходзячы канкрэтна з гэтай пазіцыі, мы і кіруем сельскімі Саветамі.*

**Іван БРАЛКА,**
**спецыяльны карэспандэнт «Звязды».**
Бялыніцкі раён.

*НА СВАЕ ВОЧЫ*

# «Новы беларус» з Падмаскоўя

**Ведаю яго з канца сямідзесятых. Тады спартсмен, кандыдат у майстры па лёгкай атлетыцы, ён скончыў наш Беларускі інстытут фізічнага выхавання, пачаў працаваць выкладчыкам фізічнай культуры і спорту ў адной з вясковых школ. Высокі, падцягнуты, энергічны і заўсёды жыццярадасны, ён імпанаваў і кіраўніцтву школы, і вучням, якія цягнуліся да яго. Усё складвалася нібыта добра. Праўда... З'явілася сям'я, дзеці, рубам паўстала пытанне аб жыллі. А кватэры ніхто нават не абяцаў, пабудавацца ж у райцэнтры на заработную плату настаўніка можна было хіба толькі ў казачным сне.**

*У 1983 годзе ў жыцці Тадэвуша адбыўся карэнны пералом: адпрацаваўшы тэрмін, як і належыць маладому спецыялісту, ён разарваў усякія адносіны са школай і абранай некалі прафесіяй. Рашуча, як усё робіць у гэтым жыцці. Трэба будаваць уласную хату, дык ён і будзе будаўніком, а найперш заробіць на гэта будаўніцтва — таксама з кельняй у руцэ. Балазе, бацька быў выдатны будаўнік, які з цяжкасцю мог успомніць тую спецыяльнасць, якой ён валодаў недасканала. Пайшлі сын з бацькам «на шабашку». Так што з 1983 года ў Тадэвуша няма ніводнага дня афіцыйнага працоўнага стажу. Хаця ўсе гэтыя гады працаваў ён удвая, калі не ўтрая, больш, чым працуюць будаўнікі ў дзяржаўных арганізацыях. А сустрэўся я з ім па той прычыне, што ведаў: вось ужо некалькі гадоў ад ранняй вясны да позняй восені праводзіць Тадэвуш у Падмаскоўі, працуе на дачах «новых рускіх», аздабляючы іх віртуознай кладкай пліткі, афармляючы сцены сваёй фірмовай «шубай»...*

*Тадэвуш, як чалавек, які ведае сабе цану, спачатку паказаў тое, што ўжо зрабіў. Такія фотаздымкі не толькі цешаць самалюбства майстра — яны і своеасаблівая рэклама. Калі да наймальніка прыязджае проста чалавек і прапануе свае паслугі — гэта адно. Але калі чалавек дэманструе зробленую ім унутраную і знешнюю аздобу асабнякоў, на фоне якіх сам майстар — гэта зусім іншае.*

**— Такім чынам, Падмаскоўе, Тадэвуш, з чаго яно пачыналася?**

— Што вартае ў «новых рускіх» — яны ўмеюць вучыцца, слухаць, глядзець. Калі пачыналі будаўніцтва мясцовыя «шабашнікі», потым да іх падключыліся майстры з блізкага замежжа, то сёння ўжо будуюць і немцы, і фіны, і шмат хто іншы. Пануе жорсткая канкурэнцыя. Гаспадар, наймаючы работніка, ужо не проста выкідвае грошы, а заказвае, патрабуе высокай якасці. Таму адразу скажу тым беларусам, хто жадае паехаць на заробкі да «новых рускіх». Не маеце прафесіі, высокага ўзроўню свайго рабочага майстэрства — не разлічвайце на залатыя горы. Будзеце на самых нізкааплатных і самых цяжкіх работах.

Першыя паўгода сталі для мяне сапраўдным выпрабаваннем. Трапіў я на дачу да «новага рускага», убачыў ён тое, што магу рабіць, спадабалася. Дамовіліся і аб цане. Але аказаўся гэты чалавек нейкім, скажам так, занадта ахвочым да жыцця. Ночы праводзіў у казіно, з'яўляўся на дачы толькі на некалькі хвілін. Часам з-за адсутнасці нейкага матэрыялу даводзілася прастойваць тыднямі. Ды і не плаціў зусім, усё абыходзіўся абяцанкамі. Ды што там — харчаванне, як было дамоўлена, дастаўляў толькі час ад часу. Так што і пагаладаць без грошай давялося. Маліну ў лесе збіраў. Але многае на яго дачы ўсё-такі зрабіў. Гэта ў рэшце рэшт і выратавала.

**— Разлічыўся?**

— Ды не, зазірнуў на дачу гаспадара яго знаёмы, Аляксей, таксама з «новых рускіх», але зусім іншага кшталту. Адукаваны, інтэлігентны. Не п'е, не курыць, займаецца спортам, захапляецца музыкай і літаратурай. Ёсць, аказваецца, і такія. Паглядзеў ён на маю работу і пытаецца: «А маглі б вы мне плітку пакласці ў асабняку, там з дзесятак квадратных метраў?»

Паехалі. Зрабіў я яму гэту работу так, што ён звыш дамоўленай сумы заплаціў і яшчэ даў прадуктаў. Не думайце, што мы нейкія жабракі, але ў стане наёмнага рабочага з іншай краіны, ды яшчэ ў дачнай мясцовасці, нішто не лішняе. А потым і пытаецца: «А маглі б мне камін зрабіць?» — «Чаму б і не?»

Так і застаўся я на дачы Аляксея на цэлыя два гады. Зімою, зразумела, ездзіў дадому. Рабіў усё па аддзелцы, аздабленню. Я ж і плітку кладу, і сталярныя, цяслярныя работы раблю. І «шубу» па ўласнай тэхналогіі. Не буду хваліцца, але ў адной з залаў хацеў гаспадар на сценах зрабіць вадкія шпалеры. Гэтым займаюцца нямецкія спецыялісты. А перад іх прыездам для гаспадара я на сцяне зрабіў некалькі ўзораў сваёй «шубы». Немцы прыехалі, убачылі і таўкуцца каля іх — «гут». Праз перакладчыцу Аляксей высветліў высокую ацэнку немцаў. Таму і прапанаваў усе 11 пакояў дома афармляць мне. Потым я і высокі падмурак афармляў, і басейн, і шмат што іншае. Калі спраўляў у сваім асабняку ўваходзіны, мяне пасадзіў насупраць. І тост падняў за мяне, як за чалавека, дзякуючы якому гэты дом стаў такім. Не абышлося без апладысментаў. Ну ды гэта лірыка. Але заказчыкаў апладысменты гэтыя мне дабавілі. Увогуле канкурэнцыя цяпер вельмі моцная. Проста так не прыедзеш і паслугі свае не прапануеш. Патрэбны рэкамендацыі, патрэбна ўжо сваё асаблівае імя, марка.

**— Ну а ўвогуле ўражанне ад «новых рускіх», ад расіян?**

— Я ўжо гаварыў, што яны ўмеюць хутка вучыцца, пераймаць. Ёсць шмат такіх, як мой першы гаспадар, — шалёныя грошы, шалёнае жыццё. Але шмат і такіх, як Аляксей, — удумлівых, негаваркіх, цвёрдых у словах і дзеяннях. Да нас, беларусаў, стаўленне найлепшае. Побач працавалі прадстаўнікі многіх краін цяперашняй СНД, да нас, беларусаў, расіяне адносяцца найбольш цёпла, бывае крыху і іроніі. Яны больш счэпленыя, калі можна так сказаць, расіяне. У іх больш веры ў заўтрашні дзень. Трэба зазначыць, што Масква ды ваколіцы — своеасаблівы рэгіён Расіі, там найменш бедных. Сустракаўся я з людзьмі з далёкіх рэгіёнаў, яны ў асноўным прывозяць сюды прадукты харчавання — там цяжэй.

**— А ўвогуле, які быт у беларуса на заработках, як жывецца, сталуецца, адпачываецца?**

— Адпачынак — рэдка. Я, напрыклад, як цяпер кажуць, працагалік. Пачынаючы справу, заўсёды аж гару ад нецярплівасці ўбачыць яе вынік, працую па дванаццаць гадзін. І ў той жа час кожную раніцу прабягаю тры кіламетры кросу. Харчуюся сам, прычым тут грошай шкадаваць нельга. Патрэбны заўсёды свежыя агародніна, садавіна. Арганізм пры такіх нагрузках зношваецца вельмі хутка, горш чым ад таго ж алкаголю ці цыгарэт. Але затое ж і заробкі добрыя. Па самых сціплых падліках, я магу зарабіць у месяц да тысячы і больш долараў. Дарэчы, зімою аддзелачныя работы не вядуцца. Якія б багатыя ні былі «новыя рускія», але і яны ўмеюць лічыць: каб зімою рабіць аддзелку, трэба ацяпляць увесь асабняк, а гэта вельмі і вельмі немалыя грошы. Увогуле жыццё там адметнае. Напрыклад, на дачы Аляксея ў мяне ў падсобніках пастаянна працавалі два салдаты. У гаспадара ёсць сябар, камандзір батальёна. Ён і выдзяляў гэтых салдат пад маркай нарадаў, камандзіровак — не ведаю чаго там яшчэ. А за гэта Аляксей штомесяц плаціў камбату пэўную суму. Ды і салдат не забываў. Такіх салдат-парабкаў я шмат бачыў і на іншых дачах.

**— Тадэвуш, я чуў, што ў цябе была вельмі непрыемная гісторыя ў час аднаго вяртання на радзіму.**

— Так, непрыемная. Тую станцыю Сафонава я не забуду ўсё жыццё. Што казаць, алкаголь я ўжываю рэдка, у дарозе, ды яшчэ з вялікім грашыма, ніколі не п'ю. Але тут нейкай атруты мне падсыпалі, відаць, у каву. Ды што там, у Вязьме, на той жа чыгунцы, нядаўна асудзілі цэлую групу работнікаў міліцыі і праваднікоў вагонаў, якія «працавалі» ў адной звязцы. Адным словам, ачуняў я ў камеры Сафонаўскага аддзялення міліцыі. Рэчы вярнулі, а вось больш чым дзве тысячы долараў прапала. Далі пяцьдзесят тысяч расійскіх рублёў. За іх і да Беларусі не дабрацца. Да Масквы таксама. Вымушаны быў прадаць сёе-тое з рэчаў. Ды і дадому не паехаў, вярнуўся назад да таго ж «новага рускага», зноў трэба было працаваць, каб зарабіць грошы. Хачу папярэдзіць землякоў: у дарозе не дазваляйце сабе расслабіцца. Будзьце асцярожныя, заўжды гатовыя да нечаканасцяў. Такіх, як мы, рабацяг, «пасуць» несумленныя людзі. У іх свой «бізнес».

**— І вось зіма. Майстар вярнуўся з заробкаў, прывёз грошы. Цяпер адпачываць? Музыка, кнігі...**

— Ды не, без справы я сядзець не магу. Займуся цяпер вырабам мэблі. Гэта таксама тая справа, якая вельмі падабаецца. Нестае, праўда, матэрыялаў, але ўжо цяпер у галаве складваюцца малюнкі будучых упрыгажэнняў спальнага гарнітура. Буду рабіць яго.

*І тут жа Тадэвуш вядзе мяне ў пакой, дзе стаіць мэбля, зробленая сваімі рукамі. Сапраўды, такую бачыў, але толькі на выставах самай стыльнай мэблі.*

*А пасля развітання з субяседнікам падумалася: а чаму яго, Тадэвуша, нельга назваць «новым беларусам»? Не, шалёных грошай ён не хапае, за чужы кошт не жыве. Але ж жыве ўжо па-новаму. Не чакае нейкай дапамогі, міласці. Усяго дабіваецца сам.*

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

*З НАГОДЫ*

# ПАЧЫНАЕЦЦА АБМЕРКАВАННЕ НОВАГА ЗАКОНА АБ ВЕТЭРАНАХ

**Як чакаецца, у другой палове красавіка Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу разгледзіць новы варыянт Закона «Аб ветэранах». Тым часам можна лічыць, што абмеркаванне праекта ўжо пачалося. 26 студзеня гэтай тэме было прысвечана пасяджэнне парламенцкай Камісіі па працы, сацыяльных пытаннях, ахове здароўя, фізічнай культуры і спорту. Пасля заканчэння пасяджэння наш карэспандэнт задаў некалькі пытанняў аднаму з распрацоўшчыкаў новага Закона аб ветэранах, намесніку міністра сацыяльнай абароны Пятру Сікорскаму.**

***— Цяперашні Закон «Аб ветэранах» прыняты параўнальна нядаўна, у 1991 годзе. Чаму паўстала пытанне аб зменах?***

— Неабходнасць змен узнікла таму, што, як высветлілася, у цяперашнім законе «згубіліся» некаторыя катэгорыі грамадзян — скажам, удзельнікі вайны на тэрыторыі іншых дзяржаў, ветэраны праваахоўных органаў і г. д. Гэта першая прычына. Другая — у тым, што новы варыянт закона павінен як бы закумуліраваць у сябе ўсе законы і пастановы, якія датычацца ветэранаў вайны, працы, непаўналетніх вязняў фашызму, «афганцаў».

***— Што стане асновай новага закона?***

— Апроч цяперашняга закона, мы зыходзілі таксама з міжнародных пагадненняў у рамках СНД і пагадненняў у рамках Саюза Беларусі і Расіі.

***— Галоўнае пытанне: ці плануецца скасаваць ільготы для ветэранаў або, прынамсі, іх частку?***

— Пра бліжэйшую будучыню можна казаць адназначна — ільготы ліквідоўвацца не будуць. Што да больш аддаленай перспектывы, то дыферэнцыяцыя павінна адбыцца, і льготамі будуць карыстацца тыя, хто іх сапраўды заслугоўвае. Але тут трэба мець на ўвазе наступнае. Сёння пад кіраўніцтвам Міністэрства эканомікі распрацоўваецца праграма па барацьбе з беднасцю. Па сутнасці гэта азначае, што калі нават тая ці іншая катэгорыя грамадзян і не трапіць у новы Закон аб ветэранах, яны ўсё роўна атрымаюць як бы «кампенсацыю» за кошт праграмы барацьбы з беднасцю — гаворка аб выдзяленні дапамог для малазабяспечаных, ссуд і г. д. Таму, мяркую, у выніку горш не атрымаецца.

***— Аднак якая верагоднасць таго, што распрацаваны вамі праект будзе прыняты?***

— Хаця нашыя напрацоўкі і ўзгодненыя з зацікаўленымі міністэрствамі і ўрадам, аднак гэта яшчэ не азначае, што ў праект не могуць быць унесены пэўныя змены.

**Дарэчы, абмеркаванню новага варыянта Закона аб ветэранах плануецца прысвяціць яшчэ некалькі пасяджэнняў Камісіі па працы, сацыяльных пытаннях, ахове здароўя, фізічнай культуры і спорту. Пакуль жа да 5 лютага камісія зоймецца зборам прапаноў ад ветэранскіх арганізацый рознага ўзроўню.**

**Сяргей ГРЫБ.**

*«ГАРАЧЫЯ» ТЭЛЕФОНЫ «ЗВЯЗДЫ»*

*268-27-51, 268-27-57*

## Запрацаваў тэлефон у Новай вёсцы

Праз дачку з намі звязалася жыхарка вёскі Новая вёска Стаўбцоўскага раёна **Антаніна Іванаўна Чатырка**. Такая сувязь тлумачыцца тым, што ў нашай чытачкі доўгі час не працуе тэлефон. Грошы ж за «карыстанне» ў жанчыны патрабуюць штомесячна. Звярталася Чатырка на мясцовы вузел сувязі — абяцалі дапамагчы, нават прыязджалі, але справа з месца не зрушылася. Дасюль не магла Антаніна Іванаўна знайсці праўду — вярнуць тое, што ёй неабходна, за што кожны месяц спраўна бяруць грошы, не такія ўжо вялікія, але ж у бюджэце пенсіянера, як вядома, лішніх сродкаў не бывае.

Са Стаўбцоўскім раённым вузлом сувязі мы звязваліся некалькі разоў. Спачатку адбылася размова з галоўным інжынерам — той доўга не мог зразумець, у чым справа, потым паабяцаў разабрацца. На наступны дзень, праўда, як паведаміў адказны работнік Стаўбцоўскага РВС, справа з тэлефонам у Новай вёсцы была вырашана. Аказалася, з-за няспраўнасці кабелю сродак сувязі Антаніны Іванаўны Чатыркі аказаўся непрыдатным да карыстання. Як паведаміў галоўны інжынер, пасля нашага званка праблема вырашана — кабель адноўлены, тэлефон запрацаваў. Больш таго, на ўсякі выпадак сувязісты зрабілі яшчэ і запасны кабель. А з пераплачанымі грашыма ў Стаўбцоўскім РВС таксама павінны разабрацца — галоўны інжынер абяцаў паспрыяць больш хуткаму вырашэнню і гэтай праблемы.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## КОНСУЛЬСКІЯ ПАСЛУГІ Ў АМЕРЫКАНСКІМ ПАСОЛЬСТВЕ ДАРАЖЭЮЦЬ

**Новы тарыф консульскага збору, які бярэцца пры звяртанні за выдачай неіміграцыйнай візы ЗША, а таксама новыя тарыфы збораў за прадастаўленне натарыяльных і іншых консульскіх паслуг уводзіцца з 1 лютага.**

Збор, які бярэцца пры звяртанні за візай, будзе складаць з гэтага часу 45 долараў ЗША (да гэтага ён складаў 20 долараў ЗША). Прычым збор бярэцца незалежна ад таго, будзе віза выдадзена або ў яе выдачы будзе адмоўлена.

**БЕЛТА.**

*У СВЕЦЕ*

## «УНУКІ СТАЛІНА ПАЧАЛІ ВАЙНУ З-ЗА ЯГО ЗМРОЧНАГА ІМІДЖА»

Два ўнукі Іосіфа Сталіна не маглі быць больш рознымі людзьмі. Яўген Джугашвілі — суровы ваенны, які шкадуе аб добрых старых часах камунізму. Яго стрыечны брат Аляксандр Бурдонскі, дырэктар тэатра з ціхім голасам, любіць паэзію і цярпець не можа армію.

Усё жыццё яны спрачаліся аб Сталіне. Джугашвілі абагаўляе яго, Бурдонскі — цярпець не можа, і яны ненавідзяць адзін аднаго больш, чым калі б гэта ні было. Джугашвілі, які з гонарам носіць прозвішча дзеда, стварыў рух па аднаўленню рэпутацыі чалавека, палітыка якога і чысткі, на думку гісторыкаў, прывялі да гібелі 30 млн. чалавек. Ён выступіў з ініцыятывай, якая нагадвае сталінскі стыль, і пачаў складаць чорны спіс крытыкаў дыктатара, у які ўключыў і свайго кузена.

«Мне надакучыла ўся гэтая хлусня пра дзядулю, — гаворыць ён. — Усе, хто ўнесены ў спіс, — ворагі народа. Іх трэба пакараць. Я не ведаю, што мы з імі зробім, але я абдумваю, як яны за ўсё заплацяць».

Джугашвілі 62 гады. Яго бацька Якаў быў забіты нацыстамі ў час другой сусветнай вайны. Унук вельмі падобны на Сталіна нават сівымі вусамі.

Усё гэта праклінае 57-гадовы Бурдонскі, бацька якога, Васіль, быў другім сынам Сталіна. У 13 гадоў ён адмовіўся ад прозвішча, узяўшы прозвішча маці, многія з членаў сям'і якой загінулі ў сталінскіх лагерах. «Гэта было эмацыянальнае, але вельмі важнае рашэнне, — гаворыць Бурдонскі. — Прозвішча Сталін насіць цяжка. У кожнага свой крыж. Мой крыж у тым, што Сталін быў маім дзедам».

«Я не люблю фанатыкаў, а мой стрыечны брат Яўген якраз фанатык, які жыве імем Сталіна. Я не магу бачыць, як хтосьці можа яго любіць і адмаўляць учыненыя ім злачынствы. Яго пагрозы мяне палохаюць.

Гэтая сварка сімвалічна адлюстроўвае глыбокі раскол, які існуе ў расійскім грамадстве».

**«Сандзі Таймс»** *(Вялікабрытанія).*

## «РУСКІ НАРОДНЫ КАПІТАЛІЗМ ВЫГАДНЫ ТОЛЬКІ ЭЛІЦЕ»

«Зараз на карту пастаўлена, які менавіта капіталізм будзе пабудаваны на шырокіх прасторах Расіі з яе вялізнымі прыроднымі рэсурсамі, тысячагадовай гісторыяй аўтарытарызму і кволым шасцігадовым вопытам неспакойнага свабоднага рынку.

«Я — за народны капіталізм», — заявіў першы віцэ-прэм'ер Барыс Нямцоў. Маладыя рэфарматары паабяцалі стварыць роўныя правілы для ўсіх, стымуляваць сярэдні клас і стварыць умовы для працвітання малога сямейнага бізнесу. Але ў сённяшняй Расіі ўсё адбываецца наадварот. Краіна паварочваецца да алігархічнага капіталізму, што характарызуецца дамінаваннем гіганцкіх кангламератаў і жменькай багатых магнатаў, якія карыстаюцца асаблівымі прывілеямі і цеснымі сувязямі з уладамі.

Як лічыць аналітык Вольга Крыштаноўская, на чале кожнага карпаратыўнага клана знаходзяцца магнат бізнесу і яго палітычны саюзнік, напрыклад, мэр, прэм'ер-міністр або губернатар. У аснове кожнага клана стаіць банк, а вакол яго будуецца камерцыйная або прамысловая імперыя. Клан мае і сваю абарону — гэта масмедыя, службы бяспекі, карпаратыўная разведка і шпіянаж.

Такая мадэль распаўсюджваецца і за межы Масквы. Яна прэвалюе ў тых рэгіёнах, дзе мясцовыя губернатары і прамыслоўцы капіруюць маскоўскую мадэль развіцця.

Магнаты, якія кіруюць у Маскве, — гэта самыя выдатныя і яркія прадстаўнікі маладога пакалення, якія здагадаліся, якія фенаменальныя прыбыткі можна атрымаць з хаосу пасля развалу Савецкага Саюза. Яны — рэклама поспеху і лішкаў расійскага пераходу да рыначнага капіталізму, якая найбольш кідаецца ў вочы. Але крытыкі сцвярджаюць, што менавіта яны і сказілі гэты пераход. На думку многіх аналітыкаў, яны развалілі расійскую прамысловасць і цяпер толькі вучацца, як трансфармаваць яе. Яны выжылі ў грамадстве без законаў дзякуючы сваёй вулічнай кемлівасці і бязлітасным паводзінам, а не шляхам стварэння прававога грамадства. Яны ўзялі адзін з ключавых кампанентаў грамадзянскага грамадства — свабодную прэсу — і ператварылі яе ў гразекідальную машыну, якая абслугоўвае іх прыватныя інтарэсы.

Клуб магнатаў уключае, акрамя Беразоўскага, Фрыдмана, Патаніна, Уладзіміра Гусінскага («Медыя-Мост»), Аляксандра Смаленскага («СБС-Агра»), Уладзіміра Вінаградава (Інкамбанк). Палітычны цэнтр Расіі ўключае таксама «Газпрам», ЛУКОЙЛ, мэра Масквы Ю. Лужкова, буйнейшага з рэгіянальных алігархаў. Ніхто з іх не дабіўся б поспеху без падтрымкі дзяржавы.

Алігархіі не толькі наладзілі продаж буйнейшых кавалкаў прамысловай уласнасці самім сабе і не толькі расплаціліся за іх дзяржаўнымі сродкамі, але і правялі свайго чалавека (А. Чубайса. — **Заўв. рэд.**) у вышэйшы эшалон ельцынскай улады.

У адрозненне ад «гумавых баронаў» ЗША 100 гадоў таму цяперашнія расійскія магнаты не ствараюць імперыі на пустым месцы, з нічога. Яны акумулíравалі гіганцкую ўласнасць некалькімі вельмі вынаходлівымі спосабамі. А Ракфелеры і Карнегі будавалі свае імперыі там, дзе прамысловасці не існавала.

Расійскія магнаты вельмі не любяць канкурэнцыі. У большасці выпадкаў яны не думаюць аб тым, як развіваць свой бізнес рынычнымі метадамі, а толькі аб тым, як ліквідаваць канкурэнта».

**«Вашынгтон пост»** *(ЗША).*

## ЗАБІЛІ, КАБ УВАЙСЦІ Ў КАМЕРЦЫЮ...

**Працягваецца следства па крымінальнай справе аб забойстве таксіста С. у Ваўкавыскім раёне. Начальнік аддзела крымінальнага вышуку Гродзенскага абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў Чэслаў Бяляўскі паведаміў карэспандэнту «Звязды» некаторыя падрабязнасці.**

Два непаўналетнія жыхары Ваўкавыска, 1980-га і 1981 гг. нараджэння, вырашылі набыць машыну, каб затым яе прадаць і за кошт атрыманых грошай увайсці ў камерцыю. Пад будучыя «колы» яны загадзя наянялі гараж адной жанчыны. Займелі паляўнічую стрэльбу, якую перарабілі на абрэз. З гэтай зброяй накіраваліся на вакзал у райцэнтры. Падышлі да стаянкі таксі, селі ў машыну С. і рушылі за горад, у напрамку вёскі Біскупцы.

Раптам аднаму пасажыру стала дрэнна. Аўтамабіль спыніўся, і ў гэты момант з задняга сядзення таксісту стрэлілі ў галаву з абрэза. Мэта дасягнута, тавар ёсць. Машыну загналі ў гараж, аднак скалаціць першапачатковы капітал на яе рэалізацыі забойцы не паспелі. Дакладней, яны спужаліся і, выгнаўшы аўтамабіль з гаража, кінулі яго на вуліцы. Тым часам следства ўжо падыходзіла да разгадкі забойства. Пасля таго, як была знойдзена машына, адшукалі ўладальнікаў гаража, а затым арыштавалі і злачынцаў.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

*КРЫМІНАЛ*

### Прайдзісветам даспадобы банкаўскія крэдыты

**Ну і кліент пайшоў у камерцыйных банкаў!**

Узяць хоць бы апошняе здарэнне, па якому Лепельскім РАУС узбуджана крымінальная справа, галоўнай дзеючай асобай якой стаў прыватны прадпрымальнік. Яму шляхам удалай махінацыі ўдалося атрымаць крэдыт на 57 мільёнаў рублёў. Грошы, дарэчы, пайшлі на «высакародную» справу: прадпрымальнік крэдыт скарыстаў на пакупку аўтамашыны. Аднак загадкавая маніпуляцыя, як бачым, была раскрыта.

Яшчэ адну ўдачлівую асобу ўдалося «рассакрэціць» аператыўнікам у Магілёве. Пакуль вядзецца следства, скажам толькі, што «інцыдэнт» адбыўся на адным з буйных прадпрыемстваў горада.

Што ж датычыцца фігуранта крымінальнай справы, то ім аказаўся мастак-афарміцель прадпрыемства. Свой талент чалавек вырашыў скарыстаць на сваю ж карысць: устаноўлена, што на працягу мінулага года ён займаўся на працоўным месцы падробкай розных дакументаў. Прычым даволі-такі якасна.

А вось госць з Нікалаева, трэба аддаць належнае, аказаўся прайдзісветам куды горшым. Свой бізнес заезджы вараг у Мінску пабудаваў на продажы сланечнікавага алею. Праўда, алей, як устанавілі супрацоўнікі крымінальнага вышуку Заводскага раёна, аказаўся добра-такі замешаным на вадзе і падфарбаваным гарбатай. «Хімік» узяты з доказамі злачынства.

**Ігар ГРЫШЫН.**

### На той свет з шумам

**У вёсцы Стошаны Пінскага раёна адбылося здарэнне, якое магло закончыцца трагедыяй. Слесар калгаса «Камунар» вырашыў пакончыць жыццё самагубствам.**

На гэты крок 37-гадовага мужчыну, відавочна, падштурхнула гарэлка. Ён быў на добрым падпітку. Слесар залез у падвал і надумаў пайсці на той свет з шумам — узарваць балон з газам.

Каля падвала сабраліся суседзі, якія разам з жонкай і ўчастковым міліцыянерам спрабавалі адгаварыць слесара ад гэтага ўчынку. Але п'яны не паслухаўся. Выпушчаны з балона газ узарваўся. Калі б разарвала балон, то, відавочна, у жывых нікога не засталося б, а так апёкі рознай цяжкасці атрымалі жанчыны, жонка і суседка. Міліцыянеру дасталося больш. Ён стаяў бліжэй за ўсіх да слесара і ўгаворваў яго адумацца. Інспектар у выніку выбуху траўміраваны.

Падвал абваліўся. Самазабойца ўсім на дзіва амаль не пацярпеў і ўцёк у лес. Міліцыя злавіла яго на наступныя суткі.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

## ПЕРШЫЯ «ЛАСТАЎКІ» «БЕЛАРУСКАГА БІСТРО»

**У рамках нацыянальнай праграмы «Беларускае бістро» 10 лютага ў Мінску адбудзецца ўрачыстае адкрыццё першых двух рэстаранаў хуткага харчавання і фабрыкі-кухні па вытворчасці паўфабрыкатаў.**

Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» начальнік аддзела арганізацыі грамадскага харчавання Міністэрства гандлю Аляксандр Батура, першыя «ластаўкі» «Беларускага бістро» сустрэнуць сваіх наведвальнікаў на Даўгабродскай, 14 і Машэрава, 23. Па першаму ж адрасу адчыніцца і фабрыка-кухня па вытворчасці паўфабрыкатаў для патрэб рэстаранаў хуткага харчавання. У прыватнасці, тут будзе працаваць лінія так званай шокавай замарозкі, на якой прадукты будуць імгненна замарожвацца пры тэмпературы да -80°C, што дазволіць захоўваць іх каля года. Натуральна, прадукты будуць айчынныя (па словах спадара Батуры, «Макдональдс» закупіў у Расіі звычайных булак на 100 тысяч долараў). Тут жа, на базе фабрыкі-кухні, адчыніцца і вучэбны цэнтр, дзе будуць праходзіць падрыхтоўку сервісныя брыгады — усе тыя, хто будзе абслугоўваць наведвальнікаў у рэстаранах. Дарэчы, у Беларускім эканамічным дзяржаўным універсітэце з 1 верасня мінулага года ўжо пачалі рыхтаваць менеджэраў вышэйшай кваліфікацыі (тэрмін навучання 4 гады). З вясны першыя 50 чалавек пачнуць праходзіць стажыроўку ў кропках «Беларускага бістро».

— За аснову страў узята нацыянальная кухня, яе старажытныя рэцэпты, — гаворыць Аляксандр Батура. — Напрыклад, бульба ў мундзірах, якая будзе гатавацца на вачах наведвальніка за 1,5—2 хвіліны. Будзе шмат соусаў — сметанковы, яблычны, селядцовы і іншыя. Прапануем наведвальнікам таксама супы, другія стравы, бутэрброды, шматлікія дэсерты, у тым ліку і для дзяцей.

Па словах спадара Батуры, сярэдні кошт практычна любой стравы складзе 5—7 тысяч рублёў. Кожны з двух рэстаранаў зможа адначасова прыняць да 60 наведвальнікаў. Форма абслугоўвання ў іх будзе традыцыйнай для прадпрыемстваў такога кшталту, да якой ужо прызвычаіліся аматары «Макдональдса» — пакупнік будзе самастойна рабіць заказ каля стойкі.

Як дадаў Аляксандр Альфрэдавіч, неўзабаве за першымі «ластаўкамі» адчыняць свае дзверы і іх «паслядоўнікі». У прыватнасці, на вясну запланавана адкрыццё трэцяга рэстарана хуткага харчавання па вуліцы Кірава.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ЧЫМ БАГАЦЕЙШЫ НАРОД, ТЫМ ЧАСЦЕЙ ХОДЗІЦЬ ЁН У МАГАЗІН ЗА ТЭЛЕВІЗАРАМІ

**Дабрабыт жыхароў любой краіны вызначаецца колькасцю купляемых імі прамысловых тавараў працяглага карыстання. Зыходзячы з гэтай аксіёмы можна зрабіць выснову, што мінчане сталі жыць лепш.**

Паводле даных, якія прадставілі карэспандэнту БЕЛТА ў Галоўным упраўленні спажывецкага рынку Мінгарвыканкама, за мінулы год жыхары беларускай сталіцы купілі 8400 пральных машын, або амаль удвая больш, чым у 1996 годзе. На 10 тысяч штук павялічыўся продаж тэлевізараў, на 6 тысяч — халадзільнікаў.

У мінулым снежні мінчане перакрылі сярэднямесячныя паказчыкі па куплі харчовых тавараў. Розных прадуктаў харчавання, а таксама звычайных каўбас і малочных прадуктаў было куплена на 20 працэнтаў больш, чым звычайна.

**Аксана АСПІШЧАВА, БЕЛТА.**

## НА БЕЛАРУСІ СТВАРЫЛІ «БІТЛЗ»

**Другога лютага ў Беларусі павінна павеяць ветрыкам з боку Еўропы, а калі дакладней — з Брытанскіх астравоў. Бо ў гэты дзень упершыню прагучыць «Сімфонія «Бітлз».**

Гэта адзіны твор, які ўвабраў у сябе самыя папулярнейшыя тэмы славутай чацвёркі. «Замахнуўся» на святая святых Уладзімір Ткачэнка, вядомы музыкант, аранжыроўшчык і кампазітар. Толькі ў адрозненне ад мілых сэрцу кароценькіх хітоў «Бітлз» твор Ткачэнкі гучыць гадзіну, а напрамак яго дакладна вызначыць даволі складана, бо тут спалучыліся поп, рок і джаз адначасова, таму «сімфоніяй» назваць яго можна хутчэй умоўна.

Але сачыненні буйной формы, да якой адносіцца «Сімфонія «Бітлз» Уладзіміра Ткачэнкі, безумоўна патрабуюць адпаведнага выканання. Тут ужо не абыдзешся стандартнай чацвёркай музыкантаў, а сама меней неабходны цэлы аркестр. Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі, дзе паспяхова працуе Уладзімір Ткачэнка, на сцэне Белдзяржфілармоніі ўпершыню выканае нечаканы для нашай краіны твор.

Не ведаю, ці адчуюць пры гэтым слухачы дух Туманнага Альбіёна. Але цікава проста пазнаёміцца з беларускай інтэрпрэтацыяй «Бітлз». Для тых, хто не зможа паслухаць нованароджаны твор у канцэртнай зале філармоніі, яшчэ адна навіна: плануецца выпуск кампакт-дыска з «Сімфоніяй «Бітлз». У другім аддзяленні канцэрта прагучаць сусветна вядомыя «хіты». Ізноў-такі, увесь свет нібыта становіцца бліжэй да Беларусі, прынамсі ў музычным плане.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## ДЗЕСЯТКА «ЛЕПШЫХ», ДЗЕ БЕЛАРУСІ МЕСЦА НЕ ЗНАЙШЛОСЯ

**Краіны СНД з'яўляюцца абсалютнымі сусветнымі рэкардсменамі па маштабах карумпіраванасці дзяржаўнага апарату. Такая выснова зроблена англійскай газетай «Гардыян» на аснове апытання старшынь саветаў дырэктараў буйнейшых кампаній Вялікабрытаніі, Скандынавіі, Германіі і ЗША.**

У выніку апытання была выяўлена першая дзесятка краін, якія ўзначальваюць спіс найбольш карумпіраваных дзяржаў свету. Усе яны, за выключэннем Ірана, належаць да былога савецкага блока або з'яўляюцца афрыканскімі краінамі. Узначальвае сусветную лігу найбольш карумпіраваных дзяржаў Расія, на другім месцы — Нігерыя, на трэцім — Украіна. Услед за тройкай лідэраў ідуць па ўбываючай Азербайджан, Узбекістан, Гана, Казахстан і Балгарыя. Эксперты асабліва адзначылі «поспехі» Украіны — у папярэдніх рэйтынгах яна толькі замыкала славутую дзесятку. Што датычыць нашай рэспублікі, то Беларусь у спісе дзяржаў-карупцыянераў адсутнічае.

Паводле ацэнак спецыялістаў, у свеце няма краін, у якіх не было б такіх з'яў, як карупцыя і ценявая эканоміка. Эксперты кантрольнай групы па барацьбе з легалізацыяй незаконна атрыманых грашовых сродкаў, якая дзейнічае ў рамках Брытанскай банкаўскай асацыяцыі, лічаць, што аб'ём ценявой эканомікі, якая грунтуецца на подкупе ўрадавых чыноўнікаў, у Вялікабрытаніі складае каля сямі працэнтаў унутранага валавога прадукту гэтай краіны. Гэта параўнальна нізкі ўзровень, паколькі аналагічны паказчык у ФРГ складае дзевяць, у ЗША — дзесяць, у Італіі, Грэцыі і Іспаніі — 25 працэнтаў. Яшчэ шырэйшыя маштабы ценявой эканомікі, а значыць і карупцыі, у постсацыялістычных краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. У Расіі і Украіне, паводле ацэнак Брытанскай банкаўскай асацыяцыі, грашовы абарот ценявой эканомікі перавышае 50-працэнтную адзнаку.

**Вадзім МІЛІЦЫН, БЕЛТА.**

## АРМЕЙСКІЯ АРТЫСТЫ «САРВАЛІ» АПЛАДЫСМЕНТЫ

Нямецкі горад Брэмен вядомы сваімі артыстычнымі традыцыямі. Штогод тут праводзіцца міжнародны фестываль воінскіх музыкальных калектываў — духавых аркестраў, фальклорных ансамбляў. Сёлета ў ім удзельнічалі прадстаўнікі Галандыі, Іарданіі, Расіі, Румыніі, ЗША, Англіі.

Завітаў на гэты (дарэчы, ужо 34-ты) фестываль і ансамбль песні і танца Узброеных Сіл Беларусі. Як паведамілі ў МЗС краіны, па водгуках прадстаўнікоў нашага пасольства ў ФРГ, амаль кожнае выступленне беларускіх артыстаў суправаджалася бурнымі апладысментамі. Асабліва спадабалася мясцовай публіцы папуры на тэмы нямецкага фальклору, выкананне цірольскіх песень з пераліўамі, майстэрства танцораў.

**Леанід ТУГАРЫН.**

## АКТРЫСА СВЯТЛАНА АКРУЖНАЯ ЗДАБЫЛА СУСВЕТНУЮ СЛАВУ

У каталог «2000 выдатных людзей XX стагоддзя», які рыхтуецца да выдання Кембрыджскім універсітэтам, будзе ўнесена і імя актрысы Беларускага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа народнай артысткі Рэспублікі Беларусь Святланы Акружной. Яе кандыдатура была прапанавана экспертамі Савета Еўропы.

Па заслугах ацэнены дасягненні актрысы і ў Беларусі. За поспехі ў сцэнічнай дзейнасці ў мінулым годзе яна была ўзнагароджана медалём Францыска Скарыны.

**Вольга СІДАРОВІЧ, БЕЛТА.**

## АБМЕЖАВАННІ НА ЎВОЗ АЛКАГОЛЬНЫХ НАПОЯЎ У ПОЛЬШЧУ

Як паведамілі ў МЗС Беларусі, у адпаведнасці з распараджэннем міністра фінансаў Польшчы ўведзены абмежаванні на ўвоз лікёра-гарэлачных вырабаў у краіну. З дакумента вынікае, што іншаземцы і грамадзяне Польшчы двойчы на працягу каляндарнага месяца маюць права без пошлін увезці літр моцных алкагольных напояў, два літры віна і пяць літраў піва.

## АСАЦЫЯЦЫЯ «ШЧЫТ ЧАРНОБЫЛЯ» — ЛЮДЗЯМ

На чарговым пасяджэнні рэспубліканскага савета Асацыяцыі работнікаў праваахоўных органаў «Шчыт Чарнобыля» падведзены вынікі работы за мінулы год. І хоць узрост гэтай грамадскай арганізацыі зусім яшчэ малады , на яе рахунку нямала карыснага. Не так даўно тут адбылася сустрэча з мітрапалітам Мінскім і Слуцкім, Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі Філарэтам, у ходзе якой ад яго атрымана благаслаўленне і абяцанне падтрымкі адносна будаўніцтва праваслаўнай капліцы ў гонар іконы Божай Маці «Дараванне загінуўшых». Папаўняецца і каса гэтай арганізацыі. Калі на пачатку стварэння асацыяцыі на яе рахунку было ўсяго 3 мільёны рублёў, то цяпер — ужо каля 635 мільёнаў. Усе яны ў асноўным паступаюць ў якасці добраахвотных ахвяраванняў.

Адзначалася, што многіх з тых удзельнікаў асацыяцыі, хто змагаўся з наступствамі аварыі ў першыя красавіцкія дні 1986 года, ужо няма ў жывых, а 176 чалавек сталі інвалідамі, тры чвэрці з 15 тысяч былых ліквідатараў знаходзяцца на прафілактычным медуліку. І тым не менш, асацыяцыя выдзяляе сродкі на лячэнне дзяцей, што пражываюць ў месцах, забруджаных радыяцыяй.

**Уладзімір ШАРЭПА.**

*ЯК НАС ДУРАЦЬ*

## ПАКВАПІШСЯ НА ЧУЖОЕ — АДДАСІ СВАЁ

**Сутнасць падману простая і адначасова надзіва дзейсная. Найперш у нейкім нешматлюдным месцы выбіраецца патэнцыяльная ахвяра, чый знешні выгляд, вопратка хаця б аддалена намякаюць на пэўную «крэдытаздольнасць».**

Далей усё разыгрываецца нібы па нотах. Насустрач ахвяры з заклапочаным выглядам бяжыць малады чалавек, які «выпадкова» «губляе» ёй пад ногі пачак долараў (гэта бачна з першага погляду) і «засяроджана» знікае. Гэтак жа «выпадкова» побач з ахвярай аказваецца яшчэ адзін юнак, які тут жа бярэ ініцыятыву ў свае рукі.

«Э, хлопец, глянь, гэты лох згубіў «баксы», пачакай, раз ты ўжо таксама ўбачыў, давай хутка падзелім папалам, пакуль той дурань не вярнуўся». Пагадзіцеся, не кожны чалавек адразу адмовіцца ад такой прапановы, асабліва калі побач няма людзей, ды і ўладальнік грошай знік, як скрозь зямлю праваліўся. «Пачакай радавацца, раптам гаспадар вернецца, — гэта зноў да ахвяры, у якой ад нечаканасці і магчымай лёгкай нажывы ўжо паехаў «дах» і якая збянтэжана топчацца на месцы. — Пайшлі хутчэй у пад'езд (двор, тупік), там падзелім». І наш «лох», які яшчэ колькі хвілін таму думаў пра нешта сваё і спяшаўся па справах, пакорліва тупае ў якое-небудзь зацішнае месца. Там долары падлічваюць і дзеляць звычайна папалам. Ахвяра дастае партманет, хавае «халяўныя» грошы і ўжо гатова знікнуць, як «нечакана» ў гэтае ж месца з'яўляецца гаспадар «згубленых» долараў. За ім — некалькі «амбалаў». «Так, хлопцы, я згубіў «баксы», выпадковы прахожы бачыў, што вы іх падабралі і пайшлі сюды. Калі не хочаце непрыемнасцяў, хуценька аддвайце мае кроўныя». Завадатар дзяльбы хуценька вяртае сваю «долю» і знікае. Ахвяра таксама дастае з партманета чужыя грошы. «Пачакай, тут не ўсе. Дзе астатнія, схаваў? Давай мы самі праверым твой кашалёк. Няма... Значыць памыліўся. Ну, будзь». Кампанія знікае, а наш «герой» яшчэ пэўны час прыходзіць у сябе. Але галоўнае яго чакае наперадзе — з партманета абавязкова знікаюць ужо яго ўласныя грошы. Махляры так спрытна выцягваюць іх, што шанцаў заўважыць прапажу ў збянтэжанага калейдаскопам падзей чалавека практычна няма. А калі і былі — што зробіш супраць такіх бамбізаў?..

... Мяне выратавала толькі тое, што я крыху спазняўся на сустрэчу. І калі пад ногі «ўпаў» пачак «баксаў», я, перш чым уцяміць, што ўласна адбылося, быў ужо за некалькі крокаў ад гэтага «сыру». І фраза другога «выпадковага» прахожага: «Э, хлопец...» прагучала ўжо недзе ззаду. Выратавала і тое, што я ведаў пра гэты «нумар». А калі б не... Як на грэх, у той дзень у кішэні ляжалі долары...

Не так даўно тэлебачанне паказала падобны сюжэт, а потым паказала злачынцаў — можа хто іх ведае, пацярпеў. Твары былі іншыя. Значыць, «бізнес» працвітае? Сцеражыцеся, спадарства!

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

*Егіпецкія археолагі вырашылі зрабіць яшчэ адну спробу знайсці грабніцу Аляксандра Македонскага. Вядома, што вялікі палкаводзец быў пахаваны ў Александрыі, ёсць нават апісанне грабніцы, а вось месца яе да гэтага часу застаецца загадкай.*

*Штуршком да новай экспедыцыі, якую ўзначаліў прафесар Фаузі аль-Фахарані, стала цікавая знаходка ў некропалі Бабаш аш-Шарк у Александрыі. Археолагі знайшлі фрагмент мармуровай грабніцы, якая, на думку дырэктара Грэка-рымскага музея ў Александрыі Ахмеда Абдэль Фатаха, адносіцца да першых дзесяцігоддзяў існавання горада.*

**ІТАР—ТАСС.**

Рэкорд, які ўстанавіў былы прэзідэнт афрыканскай дзяржавы Малаві, наўрад ці будзе калі-небудзь перакрыты: Хасцінгс Камузу Бонда пайшоў з прэзідэнцкай пасады на 98-м годзе жыцця, а кіраваў краінай амаль тры дзесяцігоддзі.

Свой сапраўдны ўзрост Бонда, аказваецца, утойваў. Нядаўна, хутка пасля яго смерці, родныя паведамілі, што ён быў на 10 гадоў старэй афіцыйна ўказанага ўзросту.

**«Труд».**

## БЕЛАРУСКІ КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ КАЛЯНДАР

**30 студзеня**

20 гадоў з дня ўзнагароджання (1978) указам Прэзідэнта Сацыялістычнай Рэспублікі В'етнам **Беларускага дзяржаўнага універсітэта** ордэнам Дружбы за дапамогу ў падрыхтоўцы навуковых і тэхнічных кадраў для СРВ.

165 гадоў з дня нараджэння (1833-1900) **Апалінара Гараўскага**, пейзажыста і партрэтыста, мастацкая творчасць якога звязана з Беларуссю і Расіяй.

60 гадоў з дня нараджэння (1938) **В. М. Гурына**, вучонага ў галіне фізіялогіі чалавека і жывёл, акадэміка АН Беларусі.

* * *

*Немінучы канец чакае смяротных.*

**Лацінскае мудраслоўе.**

*ВАМ АДКАЗВАЕ ЮРЫСТ*

# Грашовая дапамога на дзяцей: калі яна налічваецца або ўтрымліваецца?

***На пытанні аб прызначэнні і выплаце дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей, адказвае намеснік начальніка аддзела сям'і і гендэрных праблем Міністэрства сацыяльнай абароны Таццяна Васільеўна ШАМЕТАВЕЦ***

***«Я адзінокая маці, не працую, знаходжуся на ўліку ў цэнтры занятасці. Хутка павінна пайсці ў дэкрэтны водпуск. Мяне цікавіць, чаму памер дапамогі, якая будзе мне выплачвацца, ніжэйшы чым той, які я магла атрымліваць, калі б працавала?» — пытаецца чытачка з Клецкага раёна.***

— З 1 ліпеня 1997 года ўступіў у сілу Закон «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўных дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей». У ім прадугледжана дыферэнцыяцыя памераў дапамог на дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў, якія выплачваюцца працуючым і непрацуючым жанчынам, адпаведна ў памеры 35 працэнтаў сярэднедушавога мінімальнага спажывецкага бюджэту сям'і з 4 чалавек за папярэдні год, і ў памеры 20 працэнтаў сярэднедушавога мінімальнага спажывецкага бюджэту.

Лічым гэта правільным, паколькі выплата дапамог працуючым жанчынам ажыццяўляецца за кошт сродкаў дзяржаўнага сацыяльнага страхавання. У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб асновах дзяржаўнага сацыяльнага страхавання» нараджэнне і догляд дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў з'яўляецца страхавым выпадкам і права на выплаты па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню набываецца ў залежнасці ад уплаты страхавых узносаў. А калі застрахаваная асоба, у дадзеным выпадку працуючая маці, плаціць узносы, за кошт якіх і фарміруюцца крыніцы сацыяльных выплат, то і памер гэтых выплат для яе павінен быць вышэйшым, чым для асобы незастрахаванай.

Такія ж падыходы існуюць і ў заканадаўстве іншых краін (Расія, Украіна), дзе памер дапамогі на перыяд водпуску па догляду дзіцяці для працуючых жанчын (для тых, хто навучаецца з адрывам ад вытворчасці, жанчын-ваеннаслужачых) у 1,5—2 разы вышэй, чым для непрацуючых.

Пры гэтым жанчынам, якія знаходзяцца ў водпуску па догляду дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў, і звольненым з работы ў выпадку ліквідацыі прадпрыемства, арганізацыі, установы; жанчынам, якія з'яўляюцца інвалідамі І або ІІ групы; жанчынам-пенсіянерам па выслузе гадоў, а таксама тым, якія пайшлі на датэрміновую пенсію ў сувязі з работай у шкодных умовах працы, дапамога па догляду дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў выплачваецца ў памеры 35 працэнтаў мінімальнага спажывецкага бюджэту.

З 1 студзеня 1998 года памеры дапамог па догляду дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў складаюць: для працуючых жанчын — 712.800 рублёў, для непрацуючых — 407.300 рублёў. А для вас, як адзінокай маці — 509.100 рублёў.

***— Некаторыя мамы непакояцца: ці не будзе дыферэнцыраваны памер дапамогі ў залежнасці ад чарговасці нараджэння дзяцей?***

— Нягледзячы на тое, што першыя дзеці, як правіла, нараджаюцца ў маладых сем'ях, у большасці з якіх нізкі ўзровень даходаў і адсутнічае жыллё, а далейшае паяўленне дзяцей часцей за ўсё плануецца, у тым ліку і з улікам матэрыяльнага становішча сям'і, лічым немэтазгодным памер дапамогі ў сувязі з нараджэннем дзяцей звязваць з чарговасцю іх нараджэння.

***— Мнагадзетныя сем'і адносяцца да катэгорый найбольш малазабяспечаных. Што робіцца для іх сацыяльнай абароны?***

— Матэрыяльная падтрымка мнагадзетных сем'яў ажыццяўляецца ў адпаведнасці з Законам «Аб дзяржаўных дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей». Як правіла, такія сем'і з'яўляюцца малазабяспечанымі, па гэтай прычыне большасць з іх атрымліваюць штомесячныя дапамогі на дзяцей.

Да існуючых сацыяльных гарантый дабавілася штогадовая выплата мнагадзетным сем'ям аднаразовай грашовай дапамогі на дзяцей школьнікаў.

Пэўная падтрымка рэалізуецца і праз падатковыя льготы. Падаходным падаткам не абкладаюцца заработная плата і іншыя віды грашовых узнагароджанняў рабочых, служачых і прыраўнаваных да іх па падаткаабкладанню грамадзян, што атрымліваюцца па месцы іх асноўнай работы (службы, вучобы), якія выхоўваюць траіх і больш дзяцей да 18 гадоў у памеры дзвюх месячных мінімальных заработных плат на кожнае дзіця.

Маці, якія выхоўваюць траіх і болей дзяцей ва ўзросце да 16 гадоў, штотыднёва прадастаўляецца свабодны ад работы дзень з аплатай яго ў памеры сярэднядзённага заробку.

Для бацькоў, якія маюць траіх і болей дзяцей, плата за іх утрыманне ў дзіцячых дашкольных установах зніжаецца на 50 працэнтаў.

Беспрацоўным, якія маюць траіх і больш дзяцей, памер дапамогі па беспрацоўю, назначанай ва ўстаноўленым парадку, павялічваецца на 20 працэнтаў.

Малазабяспечаным сем'ям прадастаўляюцца безнаяўныя жыллёвыя субсідыі, калі плата за жыллё і камунальныя паслугі перавышае 15 працэнтаў сукупнага даходу сям'і.

Мнагадзетным сем'ям для дзяцей першых двух гадоў бясплатна адпускаюцца малочныя сумесі і іншыя прадукты дзіцячага харчавання.

Плата за карыстанне падручнікамі зніжаецца на 50 працэнтаў для сем'яў, у якіх выхоўваецца трое і больш дзяцей школьнага ўзросту. Таксама зніжаецца на 50 працэнтаў кошт фізкультурна-аздараўленчых паслуг, якія прадастаўляюцца дзецям з мнагадзетных сем'яў.

***«Я член калгаса. Знаходжуся ў водпуску па догляду дзіцяці да 3 гадоў. Маю яшчэ дваіх малалетніх дзяцей. Раней я атрымлівала дапамогу на ўсіх дзяцей у памеры 100 працэнтаў. А ў мінулым годзе — толькі на дзіця да трохгадовага ўзросту. Галоўны бухгалтар растлумачыла, што ў 1996 г. мой муж не выпрацаваў неабходнага мінумуму ў калгасе. Летась ён, на жаль, таксама апынуўся ў такім жа становішчы. Ці не змяніўся ў гэтай частцы закон, ці зноў наша сям'я будзе пазбаўленая дапамогі?»***

— Не, заканадаўства ў гэтай частцы не змянілася. У адпаведнасці з Палажэннем аб парадку назначэння і выплаты дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей, сем'і калгаснікаў маюць права на атрыманне дапамог на дзяцей старэй за 3 гады ў выпадку, калі працаздольны бацька ў поўнай сям'і выпрацаваў у годзе, які папярэднічае году звароту па дапамогу, не менш як 2/3 мінімуму выхадаў на работу, устаноўленага ў калгасе.

***«Пры прызначэнні дапамогі на дзіця я прадставіла даведкі аб даходах сям'і. Пазней былі выяўлены недакладнасці, і цяпер з дапамогі ў мяне вылічваюць папярэднія выплаты. Ці правільна гэта?» — цікавіцца чытачка з Віцебска.***

— Калі выплачана лішняя дзяржаўная дапамога ў выніку злоўжыванняў з боку атрымальніка (былі прадастаўлены дакументы з заведама няправільнымі звесткамі, утойванне заработкаў ці іншага даходу, непрадстаўлены звесткі аб змяненнях у саставе сям'і), а таксама калі дапамога выплачана ў выніку падліковай (арыфметычнай) памылкі, яна кампенсуецца ў поўным аб'ёме. Вылічвацца гэта сума можа з далейшых выплат дапамогі, але пры ўмове, што ўтрымліваемы памер не будзе перавышаць 20 працэнтаў ад памеру дапамогі.

**Матэрыял падрыхтавала Наталля ДОЎНАР, юрыдычны кансультант «Звязды».**

## ВІНШАВАННІ

*Віншуем дарагіх бацькоў **Лілію Аляксееўну** і **Уладзіміра Цімафеевіча ФІЛАТАВЫХ** з жамчужным вяселлем.*

*Жадаем вернасці, надзеі, кахання, шчасця, дабрыні,*
*Каб год ад году маладзелі і толькі разам вы былі.*

**Дачка Людміла, зяць Андрэй,** *г. Мінск.*

*Шчыра віншуем дарагога і любімага сына **Алега Рыгоравіча ЖАЎНЯКА**, які жыве і працуе ў Мінску, з 30-годдзем. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у працы і доўгіх гадоў жыцця.*

**Бацькі,** *г. Калінкавічы.*

*Віншуем з днём нараджэння **Ігара БАНЦАРА** і нараджэннем яго сыночка Жэнечкі, якія жывуць у Баранавічах. Шчасця і даўгалецця жадаюць вам Шчасныя з в. Сівіца Смаргонскага раёна.*

***Анатоля Рыгоравіча АРАШКЕВІЧА** віншуем з днём нараджэння. Жадаем здароўя, шчасця, удачы.*

**Каротыш,** *г. Лунінец.*

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Заход | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 8.00 | 16.45 | 8.45 |
| Віцебск – | 7.55 | 16.30 | 8.35 |
| Магілёў – | 7.49 | 16.35 | 8.46 |
| Гомель – | 7.41 | 16.37 | 8.56 |
| Гродна – | 8.14 | 17.02 | 8.48 |
| Брэст – | 8.09 | 17.08 | 8.59 |

### МЕСЯЦ

**Маладзік 28 студзеня.**

**З 10.20 — 3-я месяцавыя суткі.**

**Месяц — у сузор'і Рыбаў.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Антонія**

**К. Гіяцынта, Тэафіла, Марціны**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, на большай частцы тэрыторыі снег, мяцеліца. Тэмпература паветра ў Магілёве — 6—8, Віцебску, Гомелі — 5—7, Мінску — 3—5, Гродне, Брэсце — 2—4 градусы марозу.

У наступныя двое сутак: 31-га — кароткачасовы снег, слабая мяцеліца; 1 лютага пераважна без ападкаў. Тэмпература 31-га на працягу сутак — 7—12, уначы па поўначы — 13—18; 1 лютага ўначы — 10—15, месцамі да 20, удзень — 5—10 градусаў ніжэй нуля.

